НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 10 (847) 12 сакавіка 2014

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Твар эпохі

Лідзія Ярмошына: гісторыя ўзлёту бабруйскай юрысткі. **Старонкі 6—7.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Здарэнні**

## Хто сядзіць за «мініраванне» мінскага метро?

Кашэўскі цяпер знаходзіцца ў Навінках. **Старонка 11.**



**Рэпартаж**

## Клецкія татары

«Крымчукі не хочуць у Расію, бо яшчэ жыве крыўда за дэпартацыю».
**Старонка 4.**



**Гісторыя**

## Канчатковае рашэнне праваслаўнага пытання

Як у СССР знішчалі Царкву. **Старонка 12.**



**Вольны час**

## «Фітнэс-шмітнэс», ці Худзеем па-беларуску

З’явілася новае забаўляльнае шоу. **Старонка 15.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з’яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

Беларусь і Казахстан заявілі, што Украіна павінна захаваць **тэрытарыяльную цэласнасць**.

# Лукашэнка і Назарбаеў не падтрымалі Пуціна

5 сакавіка ў Нова-Агарове адбыўся экстранны саміт Мытнага саюза. Свет чакаў, што скажуць Аляксандр Лукашэнка і Нурсултан Назарбаеў на тэмы Украіны, Крыма. Яны не сказалі нічога.

Дагэтуль адзіная краіна свету падтрымала дзеянні Расіі ў Крыме — гэта Сірыя. Найбліжэйшыя саюзнікі — Казахстан і Беларусь — прамаўчалі.

І Беларусь, і Казахстан — вуснамі кіраўнікоў дзяржаў і міністраў унутраных спраў — заявілі, што Украіна павінна захаваць тэрытарыяльную цэласнасць. Гэта ідзе ўразрэз з намерам Расіі анексаваць Крым.

Перад ад'ездам Лукашэнкі ў Маскву яму тэлефанаваў былы прэзідэнт Украіны Леанід Кучма з просьбай падтрымаць захаванне цэласнасці Украіны. Афіцыйнае агенцтва БелТА абмежавалася такім паведамленнем, а прэс-служба Кучмы напісала: Лукашэнка пагадзіўся.

Нурсултан Назарбаеў пасля вяртання з Масквы правёў нараду па пытаннях умацавання абараназдольнасці Казахстана. Гаворка ішла пра паўднёвы накірунак, дзе сітуацыя пасля выхаду войскаў з Афганістана можа абвастрыцца. Але падтэкст быў крымскі. У паўночных абласцях Казахстана большасць жыхароў — рускамоўныя. Казахі нават спецыяльна перанеслі сталіцу з Алматы ў Астану, каб заахвоціць дэмаграфічныя перамены.

У Беларусі этнічных анклаваў няма, але краіна русіфікаваная ўся цалкам. Армія ўяўляе сабой, фактычна, частку расійскай. На чале большасці сілавых структур стаяць людзі, народжаныя не ў Беларусі. Добра, пакуль добра — пакуль Масква не замахваецца на фармальны суверэнітэт Беларусі.



Удзельнікі сустрэчы ў Нова-Агарове былі напружанымі і пахмурнымі.

REUTERS

У панядзелак Нурсултан Назарбаеў уключыўся ў «тэлефонную дыпламатыю». Ён перагаварыў з Ангелай Меркель, Баракам Абамам, а пасля і з Пуціным.

Украінскі крызіс павінен быць урэгуляваны «шляхам дыялогу паміж усімі зацікаўленымі бакамі, выкарыстання магчымых механізмаў міжнароднага пасярэдніцтва для забеспячэння тэрытарыяльнай цэласнасці гэтай краіны, а таксама адмовы ад узаемных пагроз і ўльтыматумаў». Такую заяву зрабіў Назарбаеў падчас тэлефоннай гутаркі з канцлерам ФРГ.

Паводле інфармацыі прэс-службы казахстанскага кіраўніка, Назарбаеў выказаў гатоўнасць Казахстана зрабіць пры неабходнасці свой канструктыўны ўнёсак у выпрацоўку кампрамісных рашэнняў для мірнага вырашэння сітуацыі ва Украіне.

У гутарцы з прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным афіцыйны лідар Казахстана адзначыў, што яго краіна як стратэгічны партнёр «з разуменнем ставіцца да пазіцыі Расіі, якая абараняе правы нацыянальных меншасцяў ва Украіне, а таксама інтарэсы сваёй бяспекі».

У той жа час ён выказаў надзею, што ўсе зацікаўленыя ўдзельнікі будуць выказваць стрыманасць і распачнуць меры для найхутчэйшай нармалізацыі сітуацыі шляхам перамоў. Назарбаеў «выказаў сваё меркаванне пра неабходнасць мірнага ўрэгулявання крызісу ва Украіне на аснове захавання суверэнітэту і ў адпаведнасці з нормамі міжнароднага права».

Захад пагражае Расіі санкцыямі ў выпадку анексіі Крыму і ўварвання на тэрыторыю кантынентальнай Украіны. Аднак ЗША далі зразумець, што войскі ва Украіну пасылаць не будуць.

Калі ўкраінцы вырашаць бараніцца са зброяй у руках, Еўрасаюз, Амерыка, Канада і Японія іх падтрымаюць. Але замест самой Украіны ніхто ваяваць не будзе.

Рэферэндум аб далучэнні да Расіі на паўвостраве перанеслі на 16 сакавіка — спяшаюцца.

**Мікола Бугай**

## Сцісла

**Яроменак выйшаў на волю**

11 сакавіка з арыштнага дома ў Баранавічах выйшаў на волю палітвязень, сябра «Маладога фронту» Уладзімір Яроменак. Спачатку ён сядзеў у калоніі ўзмоцненага рэжыму за Плошчу-2010. Пасля памілавання за ім устанавілі прэвентыўны нагляд, за парушэнне правілаў якога і асудзілі зноў.

**Маладзёны выскачылі з акна шостага паверха**

Новай ахвярай псіхатропнай «маркі» стаў 18-гадовы трэцякурснік сталічнага каледжа. Малады чалавек, скарыстаўшыся тым, што бацькоў не было дома, запрасіў да сябе 15-гадовую сяброўку. Разам яны ўжылі «маркі», пасля чаго сталі паводзіць сябе неадэкватна, зачыніліся ўдваіх у пакоі і выскачылі голымі з акна кватэры на шостым паверсе. Юнак памёр у бальніцы, дзяўчына шпіталізаваная з траўмамі рознай ступені цяжкасці.

**На 8 Сакавіка забіў жонку і дачку**

Двайное забойства было ўчынена ў Бабруйску. 45-гадовы мужчына, які знаходзіўся ў стане моцнага алкагольнага ап'янення, забіў сваю 40-гадовую жонку і 14-гадовую дачку. І ён, і сям'я характарызаваліся станоўча. Целы забітых знайшоў сын. Падазраваны затрыманы. Ён знаходзіцца ў шоку ад учыненага і не можа растлумачыць свае дзеянні.

**Памерла Зінаіда Мажэйка**

Заснавальніцы беларускай этнамузыкалогіі было 80 гадоў. Зінаіда Мажэйка пакінула навуковыя працы, якія ўвайшлі ў «залаты фонд» славянскай музычнай фальклярыстыкі.

**ЯМ**

Ліст у рэдакцыю

# Рыгор Барадулін: апошняе «бывай» Украіне

Нядаўна мы назаўсёды развіталіся з Рыгорам Барадуліным. Не стану казаць, якая гэта вялікая, незаменная страта для родных, сяброў, беларускай літаратуры, культуры, усёй Беларусі. А таксама — для беларуска-ўкраінскіх культурных узаемадносін. Рыгор Барадулін перакладаў многіх украінскіх паэтаў на беларускую мову, і яго творы часта ўзнаўляліся паўкраінску. Хваляваўся, перажываў за Украіну да апошніх дзён свайго зямнога існавання.

11 лютага г. г. Рыгор Іванавіч патэлефанаваў нам, стаў чытаць свой верш, прасіў даслаць яго ўкраінскім калегам, у тым ліку вядомаму па песні «Два колеры» Дмытру Паўлычку, нашаму блізкаму знаёмаму. Голас Рыгора быў надта слабы, разабраць, тым больш па тэлефоне, асобныя словы нельга было, і я прапанаваў сустрэцца з ім у яго на кватэры.

Назаўтра на вуліцы Мележа, 4 мы і сустрэліся. У яго цесненькім кабінеце, па якім ён ужо не хадзіў, а перасоўваўся на крэсле-каталцы, паэт і перадаў мне аркуш паперы, на якім чорным чарнілам няроўнымі літарамі былі выведзены радкі:

*Дзьмітру Паўлычку*
*на «Вершы з Майдану»*

Сплыве па Дняпры
Набрыдзь,
Навалач,
Хлюсь.
Майдан праз вякі
Прывітае быліна.
Не схіляць чала
Спадарыня Беларусь,
Незалежная,
як жыццё,
Нэнька Украіна!

Заўважу: «Вірші з Майдану» — невялічкая кніжка вершаў («матылёк» — як называюць такія выданні ўкраінцы), якую напісаў «па гарачых слядах», надрукаваў і даслаў Барадуліну выдатны паэт, Герой Украіны Дмытро Паўлычка.

У той жа дзень я адаслаў верш тым, каму прасіў дзядзька Рыгор. Магчыма, ён ужо апублікаваны на старонках украінскага друку. Цяпер жа хацелася б, каб апошняе «бывай» Рыгора Барадуліна ўкраінцам прачыталі і беларусы. Тым больш, што гэты вершаваны радкі добра пацвярджаюць думку, выказаную Лявонам Баршчэўскім у яго «Спачуванні праз nn.by» («Наша Ніва», 5.03.2014, с. 11): «Памёр ён, безумоўна, моцна перажываючы за Украіну, якую вельмі любіў. Не перабольшу, калі скажу, што і яго трэба залічыць да нябеснай сотні герояў Майдану».

**Вячаслаў Рагойша, доктар філалагічных навук, прафесар**

Апытанне на nn.by

**Ці падтрымліваеце Вы дзеянні Расіі ва Украіне і Крыме?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 66 | 12% |
| Не | 454 | 83% |
| Гэта не наша, беларусаў, справа | 29 | 5% |

Прагаласавала 549 чалавек

**Самае чытанае на nn.by за 5—12 сакавіка**

1 «Страляй, с…а!» — украінскія лётчыкі ідуць пад кулі расійскага спецназа
2 Тысячы чалавек прыйшлі развітацца з Рыгорам Барадуліным
3 Пуцін: Неабходнасці ва ўвядзенні войскаў ва Украіну няма
4 Па Украіне гастралюе адна і тая ж трупа «патрыётаў Расіі»
5 На першай паласе «Нью-Ёрк Таймс» — украінскія марпехі, які адмовіліся здацца
6 У глыбоцкай гімназіі ўкраінскі сцяг назвалі фашысцкім
7 Лідар «Правага сектара» распавёў, што трэба зараз рабіць у Крыме
8 Мы Расія?! Відзаапытанне «Нашай Нівы»
9 Родны сын не пазнаў Жанну Фрыске
10 Мая Абромчык: Спецназавец, які збіў мяне, заплаціць за злачынства

# Януковіч: «Я вярнуся ў Кіеў»

Чаму Расія зноў выпусціла **Януковіча на сцэну**?

11 сакавіка Віктар Януковіч выступіў з 8-хвілінным заявай. На пытанні не адказваў, выйшаў і схаваўся за дзвярыма. Заява яго была пустой, апухлы твар сведчыў пра магчымыя праблемы з сэрцам. Тыдзень таму прайшла інфармацыя пра інфаркт. Чаму Расія выпусціла Януковіча на сцэну менавіта ў аўторак?

«Я жывы», — пачаў ён.

Ён назваў выбары прэзідэнта, прызначаныя ва Украіне на 25 мая, нелегітымнымі і незаконнымі.

Ён заклікаў ЗША не выдзяляць дапамогі «бандытам, што захапілі ўладу ва Украіне». Ён папярэдзіў, што ў бліжэйшы час будзе адбывацца істотнае пагаршэнне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ва Украіне.

Ён нічога не сказаў адносна захопу расійскімі войскамі Крыма і намеру яго анексіі.

«Паўтаруся: я ніколі не ўцякаў. У момант захопу ўлады нацыяналістамі я быў ва Украіне — у Харкаве, пасля ў Данецку і Крыме. Калі акалічнасці дазволяць — спадзяюся, што чакаць нядоўга, — я вярнуся ў Кіеў», — заявіў Януковіч.

Нагадаем, што першая прэсканферэнцыя Януковіча адбылася 28 лютага, а на наступны дзень Рада Федэрацыі Расіі прыняла шокавае рашэнне аб дазволе на ўвод войскаў ва Украіну.

Не выключана, Украіну можа чакаць новы віток напружання.

Органы ўлады ва Украіне патроху кансалідуюцца. Ім удалося затрымаць некалькі дзясяткаў штурмавікоў і дыверсантаў у Данбасе. Яшчэ некалькі дзён — і «пратэсты» там пойдуць на спад.

У аўторак Вярхоўная Рада Украіны мела абмеркаваць закон аб стварэнні Нацыянальнай гвардыі. Гэтая сілавая структура мае паўстаць на базе Унутраных войскаў, але на добраахвотнай аснове. Гэта значыць, што яе базу складуць сілы Самаабароны Майдану. Нацыянальная гвардыя, такім чынам, стане першай баяздольнай сілай у распараджэнні ўкраінскага ўрада. Зброі для яе Украіна мае досыць. Пасля яе стварэння Украіна перастае быць безабароннай і будзе здольная аказаць пэўны супраціў.

Менавіта таму Расія можа зрэагаваць на стварэнне Гвардыі новым прэвентыўным ударам. «Я не толькі легітымны прэзідэнт, але і галоўнакамандуючы», — нагадаў Януковіч.

Тактыка Расіі ў дачыненні да Украіны ў гэтыя дні нагадвае яе дзеянні ў Рэчы Паспалітай у XVIII ст. Тады Расія выкарыстоўвала для ўмяшання ва ўнутраныя справы нагоду «абароны праваслаўных», ва Украіне — «рускамоўнага насельніцтва». Тады Расія паслядоўна спыняла любыя спробы кіраўнікоў РП стварыць баяздольнае войска, аздаравіць палітычную сістэму і эканоміку. Пад самымі рознымі падставамі: нават «абароны спрадвечных правоў шляхты». Нарэшце, скарыстаўшы міжнароднае становішча, яна пачала адгрызаць па кавалку ад тэрыторыі.

Пуцін разумее, што, як толькі Украіна вернецца да эканамічнага росту, незадавальненне на ўсходзе Украіны распаліць стане цяжэй. Так як усход не патрабаваў далучэння да Расіі пры «аранжавай уладзе", якая — цяпер на гэта глядзіш інакш — давяла золатавалютныя рэзервы краіны з 9 да 27 мільярдаў даляраў. Якія Януковіч за чатыры гады звёў да 15-ці.

Былы дарадца Пуціна Андрэй Іларыёнаў мяркуе, што задача-максімум Крамля — або далучыць да Расіі, або заняць Адэсу і Данбас, каб адрэзаць Украіну ад мора і нафтагазавага шэльфа. Іларыёнаў мяркуе, што дзеля гэтага Пуцін гатовы пайсці ва-банк.

Трывожна прагучала і заява прэзідэнта Літвы Далі Грыбаўскайце. Учора на Літоўскім тэлебачанні яна заявіла, што Расія нават не думае аб адступленні і захаванні ўласнай годнасці.

Па словах Грыбаўскайце, на саміце ў Брусэлі на мінулым тыдні стала ясна, што некаторыя еўрапейскія лідары да канца не ўсведамляюць сітуацыю, у якой апынуліся Расія і Еўропа.

«Сёй-той казаў, што нельга зараз аказваць на Расію занадта вялікі ціск — каб даць ёй магчымасць захаваць свой твар і пакінуць ёй «стратэгію адступлення». Я ясна сказала: Еўропе трэба захаваць свой твар, а не Расіі, якая не збіраецца гэтага рабіць. Еўропа яшчэ да канца не разумее, што адбываецца, і да канца не разумее, што настаў час самой Еўропе вызначыцца і захаваць свой твар», — сказала прэзідэнт Літвы.

Віктар Януковіч збег з Кіева 22 лютага і пакінуў Украіну, імаверна, на расійскім караблі праз Севастопаль праз дзень ці два пасля гэтага. Вярхоўная Рада вызнала яго «самаўхіленне ад абавязкаў». Ён папрасіў абароны ў Расіі і пасяліўся ў Растове-на-Доне пад моцнай дзяржаўнай аховай.

**Мікола Бугай**



REUTERS

**Віктар Януковіч выступае з заявай у Растове-на-Доне.**

**За 4 гады прэзідэнцтва Януковіча золата-валютныя запасы Украіны скараціліся з 27 да 15 мільярдаў даляраў**

**«Пуцін, прэч рукі ад Украіны!»**

Два жыхары Гомеля, Дзмітрый Карашкоў і Станіслаў Була, 11 сакавіка выйшлі да пасольства Расіі ў Мінску з плакатамі: «Пуцін — вораг Украіны і Расіі» і «Пуцін, прэч рукі ад Украіны, не вайне!». Хлопцаў скруцілі і завезлі ў УУС Цэнтральнага раёна.

**Лукашэнка: Толькі ідыёт пасля падзей ва Украіне не зробіць адпаведных высноў**

«Развал краіны, які адбыўся ва Украіне, у яго аснове ляжыць развал эканомікі і страшная карупцыя. Вось дзве прычыны, якія разбурылі дзяржаву», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў аўторак.

# Сяргей Мусіенка: Калі свет на мяжы Трэцяй сусветнай вайны, не час мерацца, у каго з парубкаў даўжэйшы…

Кіраўнік лукашэнкаўскага сацыялагічнага цэнтра ECOOM Сяргей Мусіенка адказаў на пытанні «Нашай Нівы» адносна ўкраінскага крызісу.

**«Наша Ніва»: Сяргей Рыгоравіч, вы ўраджэнец Украіны. Моцна перажываеце?**

**Сяргей Мусіенка:** Канечне, гэта мой вялікі боль.

**«НН»: Бачыце шляхі выхаду з палітычнага і вайсковага крызісу?**

**СМ:** Я перакананы, што тыя, хто заварыў гэтую кашу, і павінны яе вырашыць. Калі свет на мяжы Трэцяй сусветнай вайны, не час мерацца, у каго з парубкаў даўжэйшы... Ва ўсіх вельмі многа амбіцый, а іх трэба трошку зацугляць дзеля міру і спакою ва Украіне.

**«НН»: Вы верыце ў імавернасць Трэцяй сусветнай?**

**СМ:** Калі з усіх бакоў пра гэта кажуць, то іншым разам і задумаешся. Гэта не нашы гульні, у якіх не хочацца браць удзел.



**«НН»: Чаму беларускія эліты палічылі ў гэтай сітуацыі за лепшае адмаўчацца?**

**СМ:** Занадта высокія стаўкі. Адбываецца новы перадзел свету. Калі замоўцы ўсёй гэтай сітуацыі гуляе мечанымі картамі, то лепш устрымацца. Беларусь не ўнікальная ў гэтым плане краіна. Той жа Кітай, які мае аграмадныя інтарэсы ва Украіне, лічыць за лепшае захоўваць нейтралітэт.

**«НН»: Нурсултан Назарбаеў выказаўся за тэрытарыяльную цэласнасць Украіны.**

**СМ:** Ёсць яшчэ людзі, што цвяроза мысляць. Сітуацыя вельмі запушчаная, знайсці адзіную праўду ўжо наўрад ці ўдасца. Славяне ідуць на вайну са славянамі. Гэтага і дабіваюцца замоўцы. Стандартныя механізмы ўрэгулявання сітуацыі тут ужо не дзейнічаюць.

**«НН»: Чаму?**

**СМ:** Бо разбуранае міжнароднае права. Так было ў Сірыі. З Божай дапамогай Папы вайну там удалося спыніць. Цяпер увага «Еўранюса» перакачавала з Сірыі на Украіну. Вайна падышла занадта блізка да нашых межаў — гэта бяда. Цяпер не час разбірацца, хто вінаваты, а хто не. Час садзіцца за стол перамоваў. Не могуць брацкія краіны ваяваць. Чые ж інтарэсы яны так зачапілі? Я не ўяўляю, каб у выпадку сутычак у Алабаме ці Мічыгане з расійскага боку была такая вялізная ўвага.

**«НН»: Вы абвінавачваеце ЗША?**

**СМ:** Паглядзіце, а хто прыязджаў на Майдан? Хто казаў, чаму там няма ніводнага амерыканскага сцяга, а на наступны дзень яны з'явіліся? Чаму ў ЗША так раздражнёна ўспрымаюць спробы Германіі нармалізаваць адносіны?

**«НН»: А як Вам пазіцыя Еўрасаюза?**

**СМ:** Яна няўцямная. Я чарговы раз пераконваюся, што гэта часовы саюз, які не мае агульнага яснага бачання. На чым грунтуецца паспяховасць міждзяржаўных саюзаў? На магчымасці хуткага рэагавання. Канечне, я разглядаю вельмі пазітыўна ініцыятывы Ангелы Меркель, якая спрабуе задзейнічаць Кэмерана ў вырашэнні канфлікту. Адныімі крэдытамі, як спрабуе зрабіць тое ЕС, справу не вырашыць.

**«НН»: Ці ёсць імавернасць таго, што расійскія вайскоўцы будуць на вуліцах Мінска ці Гомеля?**

**СМ:** У гэтым жыцці нічога выключаць нельга. Але я думаю, што мы гэтага не дапусцім. І сённяшняя ўзважаная пазіцыя кіраўніцтва — таму сведчанне. Няма ніякай розніцы, ці гэта расійскі, ці натаўскі салдат будзе на нашай зямлі.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Клецкія татары: «Крымчакі не хочуць у Расію, бо яшчэ жыве крыўда за дэпартацыю»

Падзеі ва Украіне ўскалыхнулі размовы пра дэпартацыю крымскіх татараў за савецкім часам — менавіта таму сёння іх дзеці і ўнукі не хочуць далучацца да Расіі. Мы паспрабавалі адшукаць нашчадкаў крымскіх татараў у Беларусі. І накіраваліся ў Клецкі раён, дзе, паводле апошняга перапісу, жыве 82 татарыны.

Адшукаць клецкіх татараў няпроста. Некалі мусульманскія вёскі ператварыліся цалкам у беларускія. Мясцовыя жыхары на пытанне, дзе ў вас тут жывуць татары, толькі разводзяць рукамі — амаль нікога ўжо не засталося. Але ў Іванаве нам шанцуе: у бацькоўскую хату вярнуўся жыць Сцяпан Казакевіч — дыпламаваны гісторык, які выконвае абавязкі імама ў Клецку.



Імам Сцяпан Казакевіч.

З выгляду Сцяпан Іосіфавіч не надта падобны да тыповага беларуса. Апошняга татарына ў вёсцы, якая некалькі стагоддзяў таму была спрэс мусульманскай, выдаюць вузкія, раскосыя вочы.

У цаглянай хаце над уваходам у пакой вісіць цытата з Карана, затое ў куце — праваслаўная ікона.

Бацькі Сцяпана былі татарамі, тата нават нейкі час быў імамам у суседнім Асмолаве. А вось дзеці ўжо называюць сябе беларусамі.

«Моладзь ужо цалкам асімілявалася, — прызнаецца ён. — Калі татарын ажаніўся з праваслаўнай, то мама выхоўвае дзяцей не па-татарску». Калісьці шлюб з іншаверкай лічыўся для беларускага татарына ганьбай. Але мусульманаў станавілася ўсё менш, і калі прытрымлівацца традыцыі, кровазмяшэнне было б не пазбегнуць.

Казакевіч выконвае абавязкі імама ў суседнім Клецку, некалькі разоў на тыдзень едзе чытаць казані. Паводле перапісу 2009 года, на Клеччыне назвалі сябе татарамі 82 чалавекі, але актыўных вернікаў значна меней. Веры трымаюцца ў асноўным сталыя людзі.

«Усе прыхаджане ўжо перасягнулі 70-гадовы ўзрост, — расказвае Сцяпан Іосіфавіч. — Моладзь услед за сабой яны падцягваюць толькі на вялікія святы, напрыклад, на Курбан-Байрам».



Клецкі малельны дом.

**Клецкія татары**

На Клеччыне было тры цалкам татарскія вёскі: апроч Іванава, гэта Арда (цяпер тут можна знайсці толькі аднаго татарына) і Асмолава. Гэтая вёска вядомая старажытнымі мусульманскімі могілкамі. На іх дагэтуль возяць хаваць людзей з Клецка. Але татараў у Асмолаве не засталося. Мясцовыя жыхары прынялі веру евангелістаў. У вёсцы ёсць іх малельны дом, як, дарэчы, і ў райцэнтры.

**Ураджайныя татары**

Спрадвеку існуе назіранне, што татары, дзе б яны ні жылі, збіралі больш ураджай, чым суседзі. «А то! Мы ж працавітыя, — смяецца Сцяпан Казакевіч. — Татарам даводзілася трымаць вялікія гаспадаркі, бо толькі за іх кошт і жылі». А Хасень Абрамовіч тлумачыць урадлівасць бацькавай зямлі тым, што ён вычыняў скуры. «Мяса пры скуры, поўсць — за хатай была цэлая гара смецця. Як перагнівала, то рабілася ўгнаеннем. І ў сто разоў лепшым, чым у суседзяў!»

**Татары ў Беларусі**

Татары — шостая па колькасці нацыянальная меншасць Беларусі. Паводле перапісу 2009 года, татарамі назваліся 7 316 чалавек. Істотна больш рускіх, палякаў, украінцаў і габрэяў, прыкладна столькі ж армянаў і цыган.

Найбуйнейшыя рэгіянальныя цэнтры татараў — Іўе (самая вялікая супольнасць за межамі Мінска) і Навагрудак. У гэтых гарадах засталіся дарэвалюцыйныя мячэці. Агулам па Беларусі адкрыта каля дзесяці мячэцяў і малельных дамоў.

У многіх раёнах Усходняй Беларусі налічваецца ўсяго па пяць-сем татараў, і толькі ў Хоцімскім раёне — ніводнага.



Бацькі і дзяды Аміні Абрамовіч. Фота пачатку XX ст.

### 500 гадоў разам

Татары з'явіліся на Клеччыне ў пачатку XVI стагоддзя. Крымчакі тады дайшлі да Цэнтральнай Беларусі, дзе былі ўшчэнт разбітыя войскам на чале з Міхаілам Глінскім. Палонныя татары засталіся ў клецкіх ваколіцах.

Яшчэ на паўстагоддзя раней Вітаўт запрасіў крымскіх татараў у Вялікае Княства Літоўскае, каб падмацаваць войска.

Ахоўныя функцыі татары выконвалі і на Клеччыне. «Сярод татараў абіраўся маршалак, які абавязаўся прадастаўляць Радзівілам 15-20 вершнікаў. Тыя суправаджалі магнатаў на вайне ці падчас вандровак», — расказвае Казакевіч.

Свой род ён выводзіць з Арды: зямлю ў Іванаве набыў прапрадзядуля, які прыехаў на тэрыторыю Беларусі яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай.

### «Ганаруся, што татарын!»

88-гадовы Хасень Ібрагімавіч Абрамовіч — яшчэ адзін актыўны вернік. З жонкай Аміняй Муратаўнай, таксама татаркай, яны ўжо адсвяткавалі дыяментавае вяселле — 60 гадоў разам! Сям'я жыве ў Клецку.

Бацька Абрамовіча любіў гандляваць коньмі, але прафесійна займаўся гарбарствам. «Увесь час даводзілася працаваць з хіміяй: як зганяць поўсць са скуры? Смурод стаяў невыносны!» — узгадвае дзяцінства Хасень. Да добрага работніка з замовамі ішлі і беларусы, і габрэі. Сярод дарослых дыскрымінацыі па нацыянальнай прыкмеце тады фактычна не было.

«Бацьку, бывала, казалі ў калгасе: ах ты, татарын! А ён адказваў: я ганаруся, што татарын!» — узгадвае Сцяпан Казакевіч і прыводзіць прыклад рэлігійнай талерантнасці. На праваслаўныя святы адпачывалі і татары, а да татарскіх святаў далучаліся і беларусы.

Дзецям разабрацца з нацыянальнымі асаблівасцямі было складаней. «Мова ў нас згубленая. Яе не ведалі ні нашыя бацькі, ні дзяды. Маліліся па-арабску, дома размаўлялі па-беларуску, а ў школе трэба ламаць язык папольску», — расказвае Хасень Абрамовіч пра парадкі ў Заходняй Беларусі.

Не разумее ён і падыходаў камуністаў: «Пісалі ў пашпарце: татарын. Ці габрэй. А навошта гэта пісаць?»

Сваім дзецям Хасень даў, як кажа, «мяшаныя імёны». Кім яны сябе вызначаюць: беларусамі ці татарамі? «Як захочуць. Мы ім далі свабоду выбару», — кажа ён.

### Памяць пра бандэраўцаў

Хасень Абрамовіч паспеў паўдзельнічаць і ў Другой сусветнай. У 1944-м ён пайшоў служыць за кампанію з таварышамі, хоць меў адмацаванне ад войска.

«Як мяне забралі ў войска, што ж я, буду там маліцца? Там не было калі... Не маліцца, а страляць трэба. Усё і выйшла з галавы», — узгадвае ён.

Падчас вайны яму давялося сустрэцца з «бандэраўцамі» падчас іх вылазак пад Брэст. З таго часу меркаванне ў яго адназначнае: «Бандэраўцаў не выкараніць. Колькі ні будзе жыць пакаленне — усё адно яны бандэраўцы». Сочыць ветэран і за сучаснай палітыкай. Тое, што самі татары хочуць застацца з Украінай, то гэта крыўда на Сталіна за дэпартацыю. Але нічога, прывыкнуць».

Сцяпан Казакевіч мае іншае меркаванне. «Расія гатовая ўсё паглынуць. Пачалося з Малдовы, калі Прыднястроўе адабралі. Пасля Абхазію і Асецію адхапаў Пуцін. Вельмі нахабны ён. Але што рабіць — сіла...», — перажывае ён за крымчакоў.

## Клецкі імам: «Расія гатовая ўсё паглынуць. Але што рабіць — сіла...»

### Дапамога з Лондана

Дзякуючы брату Хасеня, Стэфану Абрамовічу, клецкія вернікі цяпер займелі малельны дом — старая мячэць згарэла падчас вайны.

Стэфан трапіў у створаную СССР польскую армію Андэрса, якая з цягам часу была выведзена ў Іран, а затым удзельнічала ў баях у Італіі. Ён быў кіроўцам танка. Пасля заканчэння вайны падраздзяленні арміі Андэрса былі расфарміраваныя. Тых, хто вярнуўся ў Беларусь, Літву і Украіну, чакала высылка на спецпасяленне ў Іркуцкую вобласць...

А Стэфан асеў у Вялікабрытаніі. Напрыканцы 1990-х ён вырашыў пабудаваць хату ў Клецку. На радзіму ён так і не вярнуўся, але падарыў дом вернікам. Тыя дабудавалі мінарэт і сталі выкарыстоўваць хату як малельны дом.

### Эміграцыя і асіміляцыя

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны клецкія татары атрымалі магчымасць перабрацца на сталае жыхарства ў Польшчу. Паколькі іх продкі пражылі на тэрыторыі ВКЛ больш за 500 гадоў, то народ лічыўся карэнным і мог абраць сабе месца пражывання на тэрыторыі Польшчы.

З аднаго толькі Іванава на Захад з'ехала 20 сем'яў. А бацькі Сцяпана Казакевіча перад дарогай захварэлі — паездку давялося адкласці, і дазвольныя дакументы страцілі сілу.

...Год за годам колькасць татараў у Беларусі змяншаецца. Сувязь з гістарычнай радзімай даўно згубілася, і многія татары вылучаюць сябе толькі па рэлігійнай, а не нацыянальнай прыкмеце. І таму немінуча «зліваюцца» з іншымі мусульманскімі меншасцямі.

«Татарам пры любой уладзе жылося цяжка, — разважае Хасень Абрамовіч. — Прыціскалі і ў царскай Расіі, і за савецкім часам. Ці магла б узнікнуць незалежная татарская дзяржава? Не! Занадта шмат супярэчнасцяў паміж намі, дый няма лідара, які б змог аб'яднаць усіх татараў. Аднак калі б такая дзяржава ўзнікла, перакананы: яна была б адной з самых магутных у свеце».

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч, Клецк — Мінск**

# Калі і беларускія пенсіянеры зажывуць?

Сярэдняя пенсія ў Польшчы складае $650, **у Беларусі толькі $240**.

Папярэдні раз пенсіі ў Беларусі павялічваліся ў лютым, каб дагнаць рост заробкаў. Па стане на сёння сярэдняя пенсія ў Беларусі складае 2,32 мільёна рублёў, гэта каля $240.

Памер выплат беларускім пенсіянерам залежыць ад многіх фактараў — гэта і працоўны стаж, і велічыня заробку падчас працы. Напрыклад, у гарнякоў пенсія дасягае 5,5 мільёна рублёў, гэта нават больш за сярэдні заробак у Беларусі! А вось тыя, хто не набраў працоўнага стажу, вымушаныя выжываць на пенсію памерам менш за 1,3 мільёна рублёў.

Нагадаем, што ў нашай краіне, як і ў Расіі, жанчыны выходзяць на пенсію ў 55 гадоў, а мужчыны — у 60. Гэта вельмі рана ў параўнанні з большасцю еўрапейскіх краін, дзе працаваць хаця б да 65 гадоў — гэта норма. Таму і дапамогу атрымлівае меншая доля насельніцтва.

Сітуацыя ў ахопленай крызісам Украіне традыцыйна горшая, чым у нашай краіне. Мінімальная пенсія тут дасягнула ўсяго $100. Па выніках мінулага года сярэдняя пенсія ва Украіне складае менш за $160.

У суседняй Расіі сярэдні пенсіянер мае па $325. У Маскве ж за кошт надбавак дапамога дасягае $400.

У Латвіі ад пачатку года ідзе пенсійная рэформа. Узрост выхаду на пенсію расце, каб неўзабаве дасягнуць 65 гадоў. Гэта дазволіць павялічыць выплаты. А пакуль што латвійскія пенсіянеры маюць у сярэднім па $365.

Літоўцы маюць амаль столькі ж — па $360. Сярод балтыйскіх краін найбольшых поспехаў у эканоміцы дасягнула Эстонія. Пенсіянеры там атрымліваюць у сярэднім $455.

Рэкардсмен сярод суседзяў — Польшча. Паводле дзяржаўнай статыстыкі, у трэцім квартале 2013 года мясцовыя пенсіянеры атрымлівалі па $650. А ёсць жа яшчэ папулярныя ў еўрапейскіх краінах пенсійныя фонды, якія дазваляюць мець штомесячныя даплаты.

**Ягор Марціновіч**

# Рэспубліканскіх «Дажынак» больш не будзе

Застануцца толькі **раённыя і абласныя**.

Такое рашэнне прыняў Аляксандр Лукашэнка на адмысловай нарадзе. Ён падкрэсліў, што «Дажынкі» «з'яўляюцца карыснымі». «Там, дзе прайшлі кірмашы, пасля гэтага застаецца добры след для народа. У гэтым каштоўнасць гэтага фестывалю. Але будзем шчырыя, што ёсць і пэўныя недахопы ў гэтым працэсе ў той форме і ў тым выглядзе, у якім мы гэта праводзілі», — зазначыў Лукашэнка.

Тым не менш, кіраўнік Беларусі ўнёс прапанову, каб цяпер найлепшых аграрыяў краіны ўзнагароджвалі ў пачатку каляндарнага года ў Палацы незалежнасці, а не на рэспубліканскім фэсце-кірмашы ў верасні.

На базе аграгарадкоў будуць праводзіцца раённыя «Дажынкі». Таксама застануцца абласныя. А вось рэспубліканскіх болей не будзе. Пакуль не вырашана, ці адбудуцца сёлета «Дажынкі», да якіх ужо рыхтуецца Гарадок (Віцебская вобласць).

Першыя рэспубліканскія «Дажынкі» прайшлі ў 1996-м у Століне. Пасля гэтага месцам іх правядзення выбіралі яшчэ Шклоў, Масты, Маладзечна, Горкі ды іншыя гарады. Кожны раз да «Дажынак» райцэнтры атрымлівалі шматмільярдныя інвестыцыі ў інфраструктуру і сацкультбыт.

**ЗП**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Курс даляра падбіраецца да 10 тысяч рублёў

На такі курс ужо перайшлі многія **гандляры на рынках**.

Павольная дэвальвацыя прыводзіць да таго, што афіцыйныя курсы даляра і еўра ледзь не штодня абнаўляюць гістарычныя максімумы. Ад пачатку года гэтыя валюты падаражэлі на 3-4%. І цяпер даляр стаіць каля новай псіхалагічнай мяжы — 10 тысяч рублёў.

Нацбанк ацэньвае даляр у 9800 рублёў. Але беларусы сутыкаюцца з большымі лічбамі. У мінскіх абменніках камерцыйных банкаў валюту можна набыць за 9830 рублёў, але ў рэгіёнах альтэрнатыву «Беларусбанку» знайсці складана. У райцэнтрах Гродзеншчыны курс продажу даляра па стане на аўторак дасягнуў 9890 рублёў.

Падобны курс — 9900 — і ў інтэрнэт-крамах па ўсёй краіне. Але на рынках многія гандляры для зручнасці падліку ўжо перайшлі на роўны лік — 10 тысяч.

**ЯМ**

**Фотафакт**




**Кампосцер каштуе… $620**

Электронныя кампосцеры, якімі абсталююць грамадскі транспарт у Мінску, каштуюць шалёных грошай. Такую выснову можна зрабіць з тэндару, размешчанага на сайце Нацыянальнага цэнтра маркетынгу і кан'юнктуры цэн. «Мінсктранс» падаў заяўку на куплю 2300 электронных кампосцераў. На кожны з іх дзяржаўная арганізацыя гатовая патраціць ажно $620!

Перавага электроннага кампосцера над механічным у тым, што навінка друкуе на квітку час пасадкі ў транспарт.

## Сцісла

**Гарэлка падаражэла на 7 тысяч**

Мінімальная цана на гарэлку павялічылася на 18% — да 45 тысяч рублёў за бутэльку. Аднак у крамах цэннікі яшчэ большыя — напрыклад, у «Еўраопце» самая танная гарэлка каштуе каля 60 тысяч рублёў.

**Чатыры станцыі метро каштуюць мільярд даляраў**

Гэта ўкладанні на першым этапе будаўніцтва трэцяй лініі мінскага метро. Іх плануецца асвоіць да 2017 года. Частку грошай Мінгарвыканкаму пазычыць дзяржаўны Банк развіцця на чале з Сяргеем Румасам.

**Чэмпіёны Еўропы па інфляцыі**

Самая высокая ў Еўропе інфляцыя ў 2013 была зафіксавана ў Беларусі — 14,9% пасля пераразліку. Следам ідзе Расія (6,1%) і Малдова (5,2%). У астатніх краінах цэны выраслі не больш чым на 2%, а ў многіх нават зменшыліся. Напрыклад, на Кіпры дэфляцыя склала 1,6%, у Грэцыі — 1,4%.

**$250 мільёнаў на трактары і камбайны**

Сёлета аграпрамысловыя арганізацыі атрымаюць новай сельскагаспадарчай тэхнікі на 2,5 трыльёна рублёў, прычым 95% сумы будзе выдзелена праз беспрацэнтныя крэдыты. Грошы давядзецца аддаваць з 2015 па 2022 год.

**Камунальныя зноў падраслі**

З 1 сакавіка былі індэксаваныя тарыфы на камунальныя паслугі. Яны павялічыліся на 1,8%, бо на столькі за апошні квартал выраслі заробкі. Падаражанне закранула ацяпленне, электрычнасць, газ, ваду, тэхабслугоўванне, плату за карыстанне ліфтам. Да канца года квартплата вырасце яшчэ 1 чэрвеня, 1 верасня і 1 снежня.

**ЯМ**

## Удакладненне

У артыкуле «Колькі зарабляюць мінскія кандыдаты ў дэпутаты?», апублікаваным у №9 ад 5 сакавіка 2014 года, дапушчана прыкрая карэктарская памылка. Вядома ж, кіраўнік Мінгарсавета Васіль Панасюк летась штомесяц зарабляў па 17 мільёнаў рублёў, а не 17 мільёнаў даляраў.

# «Наменклатурная папялушка»

Гісторыя ўзлёту **бабруйскай юрысткі**.

Жанчын-чыноўніц, якія ў Беларусі забраліся высока па кар'ернай лесвіцы, можна пералічыць па пальцах адной рукі. У найвышэйшым эшалоне ўлады памочніца кіраўніка дзяржавы Наталля Пяткевіч, старшыня Нацбанка Надзея Ермакова, міністр працы Марыяна Шчоткіна і намесніца кіраўніка справамі прэзідэнта Надзея Каткавец. Вядома ж, у іх шэрагу і нязменная старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына.

14 лістапада 1996 года прэзідэнцкім указам быў адхілены ад пасады старшыня ЦВК Віктар Ганчар, хоць ягонае прызначэнне і адстаўка ўваходзіла ў кампетэнцыю Вярхоўнага Савета. Ганчар, былы паплечнік Аляксандра Лукашэнкі, напярэдадні заявіў, што не падпіша выніковы пратакол рэферэндуму, правядзенне якога многія юрысты палічылі незаконным.

Тым жа ўказам выканаўцай абавязкаў старшыні ЦВК была прызначаная прадстаўніца Магілёўшчыны Лідзія Ярмошына. Перад бабруйскай юрысткай не стаяла дылема, падпісваць ці не падпісваць пратакол. «Увечары вярнулася ў Бабруйск за зубной шчоткай, а на наступны дзень з'ехала ў Мінск кіраваць выбарамі», — расказвала яна ў інтэрв'ю.

Ярмошына выканала пастаўленую задачу. На рэферэндуме ўсе прапановы Лукашэнкі былі падтрыманыя, ягоныя паўнамоцтвы сталі неабмежаванымі. Чарговым указам ад 6 снежня 1996 года Ярмошына заступіла на пасаду, з якой не сыходзіць ужо васямнаццаты год. Спачатку ў Мінску яна пачувалася няўпэўнена. «Сама сябе называю наменклатурнай папялушкай», — прызнавалася яна. Але з цягам часу адчула сябе сярод чыноўнікаў сваёй.

Старшыня ЦВК выходзіць на авансцэну кожныя пяць гадоў, калі абвяшчае пра чарговую «элегантную перамогу» Аляксандра Лукашэнкі. У астатні час, за выняткам малацікавых для грамадства парламенцкіх і мясцовых выбарчых кампаній, Ярмошына працуе ў ненапружаным рэжыме.

Знаходзіцца час і для гутарак «за жыццё», пераважна з журналісткамі дзяржаўнай прэсы. Лейтматыў большасці гэтых інтэрв'ю — жаночая доля.

А вось пра сваё дзяцінства Ярмошына расказвае рэдка. Карэспандэнты «Нашай Нівы» вырашылі кампенсаваць недахоп інфармацыі.



Ярмошына цяпер.

«Я член каманды дзейнага кіраўніка дзяржавы», — Лідзія Ярмошына, студзень 2010

**Лідзія Ярмошына, старшыня ЦВК**

Нарадзілася 29 студзеня 1953 у Слуцку. Скончыла юрыдычны факультэт Калінінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1975). У 1975-1987 працавала юрыскансультантам у Калінінградзе і Бабруйску. У 1987-1988 — памочнік пракурора Кастрычніцкага раёна Калінінграда. У 1988-1996 — кіраўнік юрыдычнай службы Бабруйскага гаркавыканкама. У 1992-1996 — сябра ЦВК, з 1996 — старшыня ЦВК.

Заслужаны юрыст Беларусі (2003).

Разведзеная, мае сына.

### Вайсковыя будні Гаркавенкаў

Знайсці карані Ярмошынай складана. Афіцыйныя звесткі сведчаць, што старшыня ЦВК нарадзілася ў 1953 годзе ў Слуцку ў сям'і вайскоўца. Гэты факт пакінуў адбітак на ўсёй яе біяграфіі. «У мяне з дзяцінства алергія на вайскоўцаў. Мой бацька — палкоўнік! І я ведаю, які лёс тых, хто жыве ў такой сям'і. Вельмі цяжкі лёс. Бацька прайшоў вайну, камандаваў батарэяй, быў сапраўдным страявым афіцэрам. Паверце, існаваць у сям'і з такімі суровымі людзьмі вельмі цяжка», — прызнавалася яна. Служба кідала палкоўніка з горада ў горад. Родныя рушылі ўслед за ім.


Чатырнаццаць гадоў таму.



На школьным фота памылка — па дакументах прозвішча пішацца па-расейску «Гаркавенко».

Сям'я — гэта бацька Міхаіл з жонкай Лізаветай і двюма дочкамі. Старэйшая Ліда з'явілася на свет, калі маме было ўжо 35 год.

Ні ў адным інтэрв'ю Ярмошына не згадвае сваё дзявочае прозвішча. Толькі на выпускным здымку мы раптам прачыталі подпіс пад фота: «Гаркавенка Л.»

Адметны момант: бацька Ярмошынай быў украінцам, а маці — рускай. Не дзіва, што нацыянальную пазіцыю яна не выказвае, а па-беларуску можа хіба што пакпіць з Аляксандра Мілінкевіча, як было ў 2006-м: «Сейчас мы найдем ваше «пасведчанне».

Нарадзіўшыся ў Слуцку, у першы клас школы Ліда пайшла ў нямецкім Веймары, па месцы службы бацькі. Але праз год давялося вярнуцца ў Беларусь. Гаркавенкі пасяліліся ў Бабруйску. Бацька служыў у вайсковай часці, а маці ўладкавалася бухгалтарам.

### Любімая настаўніца

Сярэдняя школа №2 Бабруйска, у другі клас якой пайшла дзяўчынка, знаходзіцца ў самым цэнтры горада. У старэйшых класах класным кіраўніком Лідзіі была Раіса Яфімаўна Ліўшыц. Настаўніца раней сама скончыла гэтую школу, а пасля адпрацавала ў ёй 39 гадоў, заслужыўшы званне выдатніцы асветы. Пад яе эгідай вучні доўгі час выдавалі школьны часопіс «Наш сучаснік», яго нават вазілі дэманстраваць на Выставу дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскву.

Пра сваю зорную выпускніцу Раіса Яфімаўна можа расказваць доўга.

«Яна была выдатнай вучаніцай, хоць закончыла школу без медаля, бо было некалькі «чацвёрак». Ліда ўжо тады выглядала лідарам, а ў класе была камсоргам», — узгадвае настаўніца. Любімым прадметам вучаніцы была руская літаратура, якую выкладала Раіса Яфімаўна.

У школьным жыцці актыўна ўдзельнічаў тата Лідзіі. «Рэгулярна хадзіў на бацькоўскія сходы, — расказвае класная кіраўніца. — А пасля неяк прапанаваў: я цяпер свабодны, на пенсіі, магу стаць членам вашага калектыву. І хадзіў разам са мной па кватэрах вучняў, глядзеў умовы жыцця».

У свае 85 гадоў Раіса Яфімаўна захоўвае бадзёрасць. Дарэчы, яна вельмі просіць Лідзію Міхайлаўну пазваніць ёй, як будзе час.

### Няўдалыя шлюбы

Пасля школы Лідзія з'ехала аж за 700 км ад дома, паступаць на юрыдычны факультэт Калінінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яе настаўніца мяркуе, што адной з прычын сталі рознагалоссі ў сям'і.

Так ці інакш, але наступныя два дзесяцігоддзі яна правяла ў Калінінградзе. Пасля заканчэння ўніверсітэта працавала юрыдычным кансультантам у розных мясцовых кампаніях.

Тады ж Лідзія Гаркавенка стала Ярмошынай. Пра свайго першага мужа Дзмітрыя старшыня ЦВК не расказвае нічога, толькі адзначае, што развод быў яе ініцыятывай.

Праз усе інтэрв'ю Ярмошынай рэфрэнам праходзіць думка пра



Разам з сынам Аляксеем і сястрой.

# Лідзія Ярмошына


Аляксей у Францыі.
FACEBOOK.COM

мужоў-алкаголікаў, якія не вартыя сваіх жонак. «Калі жанчына дасягае пэўных вышыняў у палітыцы ці бізнэсе, ёй рана ці позна не будзе пра што размаўляць з мужам, які як быў дзесяць гадоў таму, напрыклад, рабочым, так ім і застаўся. Я гэта адчула на сабе, таму ведаю, пра што кажу», — тлумачыла яна ў інтэрв'ю.

У 1977 годзе ў сям'і нарадзіўся сын Аляксей. Па словах маці, у дзяцінстве ён быў хваравітым. «Я нават залішне клапатлівая і любячая маці, для якой яе дзіця ўсё жыццё было галоўным. Разумееце, не праца, а перш за ўсё дзіця», — узгадвала яна. І жартам расказвала пра метады выхавання: «Калі мяне пытаюцца, як я выхоўвала сына, заўсёды кажу: лупцавала яго раз на год, і роўна на год яму хапала».

Пра свякруху Ярмошына выказваецца выключна станоўча, прызнаецца, што называла яе мамай. Аднак шлюб усё адно распаўся.

«Па-мойму, мала хто з мужчын па ўласным жаданні пакідае паспяховую жонку. Хутчэй, менавіта жонка праз гады папросту пазбаўляецца ад баласта. Ад мужчыны, які, на жаль, замест таго, каб дапамагаць вырашаць праблемы сваёй жанчыне, толькі стварае ёй новыя», — апісвае сітуацыю Ярмошына.

Урэшце рэшт у 1988 годзе Лідзія кінула працу ў Калінінградзе — а тады яна была памочнікам пракурора аднаго з раёнаў горада — і разам з сынам вярнулася да мамы ў Бабруйск. Тут яна ўладкавалася ў юрыдычны аддзел Бабруйскага райвыканкама, а неўзабаве ўзначаліла яго. У 1992 годзе Ярмошыну ўключылі ў склад Цэнтральнай выбарчай камісіі, што прадвызначала яе далейшую кар'еру.

## Адзінокі сын

Сын Аляксей тым часам скончыў бабруйскую школу і рыхтаваўся да паступлення ва ўніверсітэт. Ён вырашыў ісці па шляху маці — на юрфак. Па словах Ярмошынай, гэта быў самастойны выбар хлопца. «Ён рос у нашым асяродку, чуў размовы маіх калег, бачыў людзей у міліцэйскіх і пракурорскіх пагонах, і таму для яго гэта не толькі прафесія, але і лад жыцця», — расказвала яна.

Скончыўшы БДУ, Аляксей пайшоў працаваць у пракуратуру, некалькі гадоў таму ён быў намеснікам пракурора Фрунзенскага раёна Мінска. Але пасля перайшоў з боку абвінавачвання на бок абароны. Цяпер ён адвакат у Мінскай абласной спецыялізаванай юрыдычнай кансультацыі.

Аляксею ўжо ідзе 37-ы год, а ён дагэтуль не жанаты. Хоць Лідзія Ярмошына абяцае, што стане добрай свякрухай — не будзе ўмешвацца ў сям'ю сына і дыктаваць сваю волю. І адразу ж дадае: «Мой сын заўсёды будзе для мяне галоўным і заўсёды будзе мець рацыю. Ніколі не стану на бок нявесткі».

Для сябе яна ўжо патлумачыла, чаму яе сын так і не знайшоў сваю абранніцу. «Сацыёлагі сцвярджаюць, што большасць незамужніх і нежанатых людзей, старэйшых за трыццаць — гэта дзеці альбо разведзеных, адзінокіх маці альбо тыя, хто вырас у не надта шчаслівых сем'ях. Такія хлопцы не спяшаюцца ўступаць у шлюб таму, што ніякіх прыемных успамінаў пра тое, што такое жыццё ў паўнавартаснай сям'і, у іх няма. Асабліва гэта тычыцца хлопчыкаў, выхаваных без бацькі...» — адказвае яна на пытанне пра сына.

Сама Лідзія Ярмошына выйшла замуж яшчэ раз, аднак і гэты яе выбар аказаўся нешчаслівым. Зноў развод, і зноў па яе ініцыятыве. «Абодва мужы аказаліся па жыцці недарэкамі», — заяўляла Ярмошына. І прызнавалася, што ў яе цяжкі характар.

## «Сядзелі б дома, боршч варылі»

«Магу доўга трываць, але ў нейкі момант выбухае. Такія выбухі здараюцца вельмі рэдка, але запамінаюцца падначаленым надоўга. Гэта, вядома, мой недахоп: чалавек павінен умець трымаць сябе ў руках», — расказвала яна.

Адзін з такіх зрываў здарыўся ў жывым эфіры АНТ падчас Плошчы, увечары 19 снежня 2010 года. Пасля некалькіх нязручных пытанняў вядучага ток-шоу «Выбар» Сяргея Дарафеева старшыня ЦВК дэманстратыўна пакінула студыю.

Праз некалькі гадзін, падчас прэс-канферэнцыі, Ярмошына абуралася зноў: «Гэта не «жорсткі разгон» — гэта абарона нашай Айчыны і правапарадку. Гэта з вашага боку — таму што вы ж у гэтым будынку не знаходзіліся. Вам жа нішто не пагражала. А калі нявінныя людзі, далікатныя жанчыны 42-га памеру — і раз'юшаны натоўп пёр...» Пасля заўвагі, што сярод пратэстоўцаў таксама было нямала жанчын, старшыню ЦВК, як кажуць, панесла: «Гэтым «жанчынам» рабіць няма чаго! Сядзелі б дома, боршч варылі. А не па плошчах шасталі. Гэта ганьба для жанчыны — удзельнічаць у падобных мерапрыемствах».

Гэты «боршч» прыгадвалі Ярмошынай яшчэ не раз. За яго яна атрымала «пачэснае» званне «Сэксіст года». Але непаліткарэктны пасаж пра ролю жанчын не быў экспромтам, гэта сфармуляваная пазіцыя Ярмошынай.

«Калі пры роўных умовах на адзін і той жа пост прэтэндуюць двое, перавагу трэба аддаваць мужчыну, — тлумачыць яна. — Для жанчыны кар'ера, якая не склалася, — непрыемны ўспамін пра тое, што магла б, але не стала. Для мужчыны часцяком гэта сапсаванае жыццё і паламаны лёс».

## Недасяжны Парыж

Ярмошына цікавіцца культурным жыццём. Ходзіць на тэатральныя прэм'еры, дый на кніжных выставах яе даўно запісалі ў заўсёднікі. Нядаўна старшыня ЦВК хвалілася: займела электронную кнігу.

Яшчэ адно яе хобі — падарожжы. З гэтым атрымліваецца горш... З марай Ярмошынай трапіць у Парыж інтэрнаўты пацяшаюцца ўжо каторы год. У «чорным спісе» неўязных у Еўрасаюз старшыня ЦВК сярод старажылаў — трапіла яшчэ ў 2006 годзе за «датычнасць да фальсіфікацый». Падчас лібералізацыі 2008 года прызналася: калі санкцыі здымуць, хочацца з'ездзіць у Парыж і Венецыю.

Праз два гады, падчас выдачы пасведчанняў кандыдатаў у прэзідэнты, Лідзія Ярмошына атрымала ад Яраслава Раманчука ў падарунак альбом пра сталіцу Францыі. Аднак чарговыя сумнеўныя падлікі галасоў — і з «чорнага спісу» Ярмошыну так і не выкраслілі.

Затое ў Парыжы адзначыўся сын Аляксей. У адрозненне ад мамы, ён раз'язджае па Еўропе свабодна.

...Каб зрабіць матэрыял пра старшыню ЦВК больш поўным, мы вырашылі пагутарыць з яе мамай. Хто, калі не яна, ведае ўсё пра дачку? Лізавеце Канстанцінаўне ўжо 95 гадоў, яна дагэтуль жыве ў Бабруйску. Аднак на званок па дамафоне адказала... сама Лідзія Ярмошына. Яна заявіла, што яе мама ні з кім размаўляць не будзе.

– Тады, можа, мы задамо пытанні вам?

– А якое СМІ вы прадстаўляеце?

– «Наша Ніва».

– Гэта каторая апазіцыйная?

– Гэта незалежная газета.

– З вамі я размаўляць не буду.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**

### Жыхарка Драздоў

Пераехаўшы ў Мінск, старшыня ЦВК атрымала трохпакаёўку ў спальным раёне Масюкоўшчына. Калі ў сярэдзіне 2000-х высокім чыноўнікам раздавалі надзелы ў Драздах, Ярмошына дзіўным чынам апынулася па-за спісам уласнікаў дарагой зямлі.

З цягам часу хібу выправілі. Пад канец 2007 года Ярмошына атрымала-такі надзел пад будоўлю. Таксама ў Драздах, але збоку ад іншых чыноўнікаў. Будаўнічыя працы доўжыліся два гады. Атрымаўся невялікі катэдж — два паверхі і падвал. Жыллёвыя ўмовы Ярмошынай і сына палепшыліся ў чатыры разы — каля 270 м² на дваіх.

А што рабіць са старой кватэрай? Прадаваць. Пакуль пасля Плошчы-2010 сотні дэманстрантаў чакалі Новы год у камерах следчых ізалятараў, Лідзія Ярмошына прадавала кватэру. Як стала вядома «НН», у апошнія дні снежня 2010 года трохпакаёўку афармілі за $89 тысяч.


Сямейны маёнтак у Драздах.

# Іна Афанасьева рыхтуе беларускамоўны альбом



Пра гэта спявачка сказала падчас анлайн-канферэнцыі на сайце агенцтва БелТА. Частка песень гатовая, «засталося дарабіць пару аранжыровак».

«Мне хочацца зрабіць прыгожую прэзентацыю, так, каб людзі разумелі, пра што ідзе гаворка, хочацца зрабіць добры канцэрт, а гэта ўсё каштуе сур'ёзных грошай, — кажа Афанасьева. — Таму ўсё ў нас адбываецца не за кароткі тэрмін, а як зарабляем, так і ўкладваем».

Паводле слоў спявачкі, у беларускамоўны альбом увойдзе 13 трэкаў.

Працоўны стаж Афанасьевай складае больш чым чвэрць стагоддзя. У 2007 годзе ёй прысвоілі званне заслужанай артысткі Беларусі.

**Мікіта Капкоў**

## У Беларусі забаронена вяшчанне Discovery і Animal Planet




Тэлеканалы не паспелі аформіць **дазвол на трансляцыю**.

1 сакавіка 2014 года ўступілі ў сілу новыя правілы распаўсюду тэлепраграм на тэрыторыі Беларусі. Усе каналы мусілі атрымаць новы дазвол.

Як стала вядома, дакументы не афармілі ўласнікі правоў на трансляцыю папулярных каналаў Discovery і Animal Planet.

Гэтыя каналы ўжо зніклі з эфіру МТІС, «Залы», «Космас ТБ» і іншых аператараў.

Пасля афармлення дазволу трансляцыя каналаў можа аднавіцца.

**Ягор Марціновіч**

## На Вялікай Кітайскай сцяне дазволілі маляваць графіці

У турыстаў ёсць традыцыя: пакідаць на помніках архітэктуры ўзгадку пра сябе. Каб вырашыць гэтую праблему, улады Кітая вызначылі для самадзейных мастакоў адзін з участкаў Вялікай Кітайскай сцяны.

Спецыяльная зона для ахвотных пакінуць памятны надпіс з'явіцца на ўчастку Муцяньюй. Прычым на сценах адной з вежаў, якая ўжо добра размаляваная турыстамі. У будучыні на тэрыторыі помніка з'явіцца электронная сэнсарная сцяна для графіці.

Летась такі праект запусцілі ў вежы Жоўтага жураўля ва Ухані. Гэта пост назірання за ракой Янцзы, пабудаваны больш за 1700 гадоў таму. А першыя ўчасткі Вялікай Кітайскай сцяны з'явіліся яшчэ ў IV—III стагоддзях да нашай эры.

**МК**

## У Наваполацку самае бруднае паветра ў Беларусі



Белстат склаў спіс гарадоў з найбольшымі аб'ёмамі выкідаў забруджвальных рэчываў у паветра ад стацыянарных крыніц.

Рэйтынг традыцыйна ўзначальвае Наваполацк (54 тысячы тон). Следам за ім ідзе Мінск (25 тысяч тон), Гродна (11 тысяч тон) і Навалукомль (9 тысяч тон).

Агулам жа па ўсёй краіне ў паветра было выкінута 446 200 тон забруджвальных рэчываў.

**ЯМ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Добрая навіна сярод ночы

Нешта штурханула ў паўсне, і я расплюшчыў вочы.

Праз шчыліны ў жалюзі прабівалася дрыготкае святло, але ў пакоі панавала цяжкая цемра. Я намацаў гадзіннік на тумбачцы, угледзеўся ў стрэлкі — палова на трэцюю, ноч...

Хто ведае, па якіх лабірынтах блукае падсвядомасць людзей сталага веку, чаго шукае ўначы? Але гэтым разам я ведаў, што зруйнавала сон. Быццам нейкая птушка дзяўбла стомленую падкорку — «добрая навіна», «добрая навіна»...

Што за добрая навіна?

Напярэдадні ў мяне запыталіся: ці думаў я, народжаны ў 41-м, што дажыву да вайны? Я адказаў нешта няўцямнае. А познім вечарам настойліва заенчыў скайп. «Ну, што, — з'едліва спытаў Гедымінас, — чуеш, як набліжаецца Армагедон?»

Гедымінас — былы калега, ад студзеня 1991-га, ад пачатку крывавых літоўскіх падзей, — сябра. Як сышоў на пенсію, бавіць жыццё з малымі ўнукамі на фазэндавых сотках. І, па ім відаць, задаволены гэтым жыццём. Нават кніжку напісаў пра цяпліцы, агуркі, памідоры і перцы...

Але ёсць іншы, непрыкметны бок ягонай асобы: цікавасць да глабальнай геапалітыкі. Не тое што ён нейкі палітолаг, аналітык ці наўпрост заўзятар палітычных гульняў на стадыёне пад назвай Зямля. Але амаль пры кожнай сустрэчы, рэальнай ці віртуальнай, размовы пра будзённыя турботы, пра бядоты і ціхія радасці жыцця ён пачынае і заканчвае прадбачаннем канца свету.

Усё кладзецца ў падмурак жахлівага прадбачання, важкія і не вельмі цагліны аргументаў і доказаў: і глабальнае пацяпленне, і глабальнае пахаладанне, і нафтаперапрацоўчы завод у Мажэйкяі, скрадзены амерыканцамі, і фінансавы крызіс, і тэхнагенныя катастрофы, і нават хуткае вывяржэнне вулкана Тэйдэ на выспе Тэнерыфе, дзе Гедымінас з Юрагэ вельмі любяць адпачываць...

Апошні «Армагедон» тычыўся Украіны, дакладней, падзей вакол.

«...Што, не чуеш? А я ўжо назапасіў мукі...» — «Чаму мукі? Звычайна пачынаецца з запалак і солі. Ці гэта ў літоўцаў — з мукі?» — «Соль я ўжо назапасіў. А канец свету пачнецца са знікнення мукі і паліва...» — «Ну, наконт мукі забыўся, а знікненне паліва мы ўжо перажылі. З сярэдзіны 80-х. Памятаеш чэргі на запраўках? Па 5—6 гадзін. Вось дзе быў сапраўдны Армагедон! Я трымаў тады ў гаражы бочку на 200 літраў...» — « А дзе яна зараз?» — «На фазэндзе. З гаўном...»

Вось так, на паўжарце, доўжылася наша размова, пакуль Гедымінас не пачаў гладзіць паголеную галаву — дакладная прыкмета сапраўднага хвалявання: «Не. Я не жартую».

### Канец свету пачнецца са знікнення мукі і паліва...

Будзе вайна. Сусветная. Расія не саступіць. І Амерыка не саступіць... Геапалітыка, стары... Барацьба за рэсурсы, рынкі збыту...» — «Пачакай, ёсць і добрая навіна. Ты слухаў прэс-канферэнцыю Пуціна?» — «Абрыўкамі. І што?» — «А тое, што тармазнуў. Круціўся, як вужака, хлусіў на кожным кроку, але тармазнуў...» — «А, стары, кідай глядзець тэлевізар, ідзі па муку...»

...Я падняўся з ложка, расхінуў жалюзі. У доме насупраць было цёмна, свяцілася толькі адно акно — нехта таксама не спаў...

Узгадалася восеньская ноч 1962 года. Удзень да мяне завітаў Раберта, мой, так бы мовіць, падшэфны з ліку першых кубінскіх студэнтаў універсітэта. Мы расклалі на стале мапу. «Вось, глядзі, — Раберта тыцнуў рудаватым пальцам у Маскву, — Мікіта... ракета... Амерыка...» — палец апісаў даволі дакладную траекторыю і ўпёрся ў Нью-Ёрк. Раберта задаволена засмяяўся. «Пачакай, ракеты ж на Кубе, вось тут...» — «Ты верыш імперыялістам? Ніякіх ракетаў на Кубе няма!»

Чамусьці я, студэнт савецкага гістфака, верыў.

Апоўначы ўключыў радыёпрыёмнік, як рабіў гэта падчас Карыбскага крызісу штоноч, калі трохі сцішваліся трэск і скуголенне глушылак — шукаў добрых навін. Але навіны былі спрэс дрэнныя. Свет таропка і безупынна каціўся да ядзернай вайны. Хаця ў пакоі было ціха, мірна, і толькі мільгаценне зялёнага агеньчыка сведчыла, што ў суцэльным свеце я не адзін. Амаль па Вазнясенскім: «Мой кот, как радиоприемник, зеленым глазом ловит мир...» Толькі наадварот.

...Азірнуўся — ні ката, ні радыёпрымніка, ні зялёнага вока. Толькі прыглушанае святло ў акне насупраць. Хаця не, міргае зялёны агеньчык мадэма, кліча ў сусвет...

Я націснуў кнопку, адкрыўся фэйсбук. Божухна, колькі сяброў не спіць! Алена, Андрэй, Саша, Юра, Зміцер...

«А добрыя навіны ёсць?» — пытаецца Алена з Масквы. «Сёння серада, — адказвае Саша з Мінска. — Чаго калаціцца? Усе войны пачынаюцца ў нядзелю, калі няма аніякіх навін...»

Серада, серада... Ужо серада, перадранішні змрок, 5 сакавіка. Памёр Сталін. Ніхто і не ўспомніў...

Шкада. Бо, калі ўдумацца, за ўсё маё свядомае жыццё ў савецкай гісторыі мо адзіная добрая навіна...

Сярод ночы.

# Алесь Баразенка: **Якая аб’ектыўнасць, калі адзін з бакоў палюе на цябе?!**

Алесь **працаваў на Майдане** ад пачатку і да канца, здымаючы ахопленыя полымем шыны, чалавечы боль і радасць перамог.

**«Наша Ніва»: Якім ты быў у дзяцінстве і кім ты ў выніку стаў?**

**Алесь Баразенка:** Я свядомы з дзяцінства. Шмат часу праводзіў за тэлевізарам і газетамі. Бацькі заўсёды давалі мне шмат свабоды.

**«НН»: А хто твае бацькі?**

**АБ:** Маці працуе ў банку, а тата па адукацыі — інжынер.

На першы мітынг я патрапіў з бацькам. У сям’і панавала такая атмасфера, што ў мяне ніколі не ўзнікала пытання, які сцяг для Беларусі сапраўдны.

**«НН»: Ты вучыўся ў БДУ на факультэце міжнародных адносін і вывучаў германістыку.**

**АБ:** Я хацеў спачатку паступаць на журфак, але там уявілі сумоўі і я зразумеў, што з-за сваіх поглядаў не прайду, а калі і прайду, то доўга там не правучуся. Хлусіць я б усё роўна не змог. А сядзець моўчкі — гэта самому сабе здрада. Прасцей пайсці шляхам, дзе не трэба будзе крывадушнічаць. Я добра валодаў нямецкай мовай, што і стала нагодай ісці на германістыку.

**«НН»: Але ж ты не давучыўся.**

**АБ:** Напрыканцы першага курса быў затрыманы на адной з акцый, адседзеў трое сутак. Пасля выклікалі ў дэканат, дзе прапанавалі стаць крыніцай інфармацыі для свайго факультэта. Я адмовіўся, і мне сказалі, што сесію я не здам.

**«НН»: Што ты рабіў пасля адлічэння?**

**АБ:** Я паехаў вучыцца ў Польшчу па праграме Каліноўскага. Паступіў ва Уроцлаўскі ўніверсітэт. Аднойчы па прыездзе ў Беларусь быў затрыманы на акцыі і адседзеў ужо 15 сутак. Пакуль сядзеў, мною заняўся ваенкамат і я стаў невыязным. Але ўсё роўна працягнуў вучобу ў Польшчы. Праўда, калі даведаўся, што на мяне заведзена крымінальная справа, то перада мною паўстала пытанне выбару: ці заставацца ў Польшчы на невядомы тэрмін, а мы ўсе ведаем, чым гэта звычайна сканчаецца, ці вяртацца дадому і адседзець. У выніку доўгіх ваганняў я вярнуўся ў Беларусь. Там мяне чакала Валадарка і прысуд — год хатняй хіміі.

**«НН»: І што твая хатняя хімія?**

**АБ:** Гэта строгі расклад дня. Каля гадзіны, каб дабрацца да працы, і той жа час на тое, каб вярнуцца. Я імкнуўся абстрагавацца, працаваў фізічна. У такім статусе добрую працу не знойдзеш, таму я працаваў грузчыкам. Сілаў пасля разгрузкі торфу ды розных брыкетаў не было. Вялікім плюсам было тое, што я меў шмат часу пабыць з бацькамі. Мне было 20 гадоў, я быў малады і гарачы. Магчыма, я не быў яшчэ падрыхтаваны да жыцця за мяжой. Канечне, жаданне быць тут з роднымі і адчуванне несвабоды былі прыярытэтнымі. За мяжой адчуваеш сябе вельмі несвабодным, калі не маеш магчымасці трапіць дадому.



**Алесь Баразенка**

нарадзіўся 9 мая 1988 у Пінску, відэаапаратар, які з 2009 працуе на незалежным беларускім канале «Белсат».

**«НН»: Як ты ў выніку стаў аператарам?**

**АБ:** Ды прыязджаў да мяне «Белсат», рабілі рэпартаж як пра палітвязня. Сказалі, што ў іх дзяўчына сыходзіць у дэкрэт, і прапанавалі мне паспрабаваць сябе на яе месцы. Я пагадзіўся, бо праца грузчыкам не была вяршыняй маіх мараў. Спачатку проста хадзіў і глядзеў, як працуюць, пасля стаў падстаўкай пад мікрафон. Праз год ужо пачаў здымаць сам.

**«НН»: А ці заможна жывуць беларускія аператары?**

**АБ:** Грошай на ежу і на тое, каб зняць пакой, хапае. Шчыра кажучы, я не ўяўляю, кім трэба працаваць, каб набыць кватэру ў Мінску.

**«НН»: Давай цяпер пра Украіну. Там людзі пакінулі сем’і, пакінулі родных і пайшлі на барыкады з думкай пра магчымую смерць. А на твой погляд, ці правільна гэта — ахвяраваць сям’ёй дзеля ідэі?**

**АБ:** Людзі ішлі з разуменнем таго, што яны ідуць за ідэю, якая дазволіць пазней не стаяць іх дзецям на барыкадах. Яны стаялі ля бочкі, тэлефанавалі жонкам і казалі, што стаяць за іх агульную будучыню. І часта я чуў, як людзі пыталіся ў тых, хто не падзяліў іх пазіцыю: няўжо ты хочаш, каб мы былі такімі ж рабамі, як беларусы?

**«НН»: Я чула, як людзі абвінавачвалі журналістаў, якія працавалі на Майдане, у аднабаковасці. На твой погляд, журналістыка можа быць аб’ектыўнай?**

**АБ:** Так, мы асвятлялі падзеі з аднаго боку барыкад і прымалі пазіцыю пратэстоўцаў. Шчыра кажучы, я не ўяўляю, як можна быць аб’ектыўным, калі адзін з бакоў на цябе палюе. І з задавальненнем цябе б забілі. Як я магу рабіць выгляд, што я імпаную абодвум бакам, калі з боку «Беркута» мне пад ногі ляцяць шумавая граната?

**«НН»: А які фармат падзей ты больш за ўсё любіш здымаць? Пабачыўшы страшныя падзеі, ці не хочаш ты яшчэ большага адрэналіну, «большай крыві»?**

**АБ:** Ніхто не прызнаецца, што яму падабаецца здымаць кроў. Мне падабаецца экшан, той самы спорт ці вулічныя акцыі пратэсту. Падзеі на Майдане, канечне, вельмі спадабалася здымаць. Прызнацца, часам узнікаюць думкі трапіць яшчэ ў нейкія «гарачыя кропкі». Ёсць журналісцкая наркаманія. Калі ты зрабіў добры кадр на барыкадах, табе галаву зносіць і ты хочаш зрабіць яшчэ, стаць за плячыма «Беркута» і зняць, як ён наводзіць зброю на пратэстоўцаў.

> **Магчыма, беларусы раней былі такімі, як украінцы, але пакуль мы зламаныя**

**«НН»: Гучыць даволі цынічна.**

**АБ:** Гэта проста самаабарона, якой карыстаецца журналіст падчас уласнага хваляванія і страху. Ты не можаш расклеіцца, нават калі ўпершыню бачыш кроў і трупы. Таму мы хаваем эмоцыі ў цынізме. Ты павінен даць карцінку і інфармацыю людзям, а не плакаць і хавацца.

**«НН»: Наколькі небяспечнай ты лічыш для сябе працу журналіста?**

**АБ:** Я дзесьці чытаў, што гэта самая небяспечная праца ў свеце. Камусьці тое, што цябе могуць падчас працы ў любы момант затрымаць толькі за тое, што ты з камерай, можа падавацца небяспечным і вар’ятствам. А для мяне гэта проста невялічкая акалічнасць, улада ніколі прэсу не любіла. У Беларусі я небяспекі фактычна ніколі не адчуваў, хіба падчас выбараў у 2010-м пры разгоне. Я не магу сказаць, што кожны міліцыянт як толькі бачыць мяне, адразу марыць ударыць чым-небудзь па галаве. Гэта можа быць толькі ў тым выпадку, калі ў іх ёсць загад, тады яны гэта зробяць і задумвацца не будуць. Сапраўдны страх я адчуў на Майдане.

**«НН»: А ці ведаюць украінцы «Белсат»?**

**АБ:** Так, і мяне вельмі здзівіла, што нас як канал пазнавалі і ведалі ў Кіеве. На барыкадах, калі заўважалі наш мікрафон, казалі, што ведаюць наш канал і ведаюць, што мы адзіны незалежны беларускі канал. Заўсёды пыталі, як мы працуем у Беларусі, пры нашых умовах. Калі мы паехалі здымаць у Чаркасы, падчас аблогі, нам даў каментар начальнік фінансавага ўпраўлення адміністрацыі і сказаў, што глядзіць «Белсат». Уявіце: украінскі чыноўнік з маленькага горада глядзіць незалежнае беларускае тэлебачанне!

**«НН»: Украінцы лічаць, што мы жывём у непраглядная дыктатуры?**

**АБ:** Першае, што ты чуеш ад украінцаў, у якіх на вуліцах пралівалася кроў, паўсюль стаялі спаленыя машыны і ў любы момант можа пачацца вайна, калі яны чуюць, што ты беларус, спачуванне. Кажуць, каб мы трымаліся, хвалююцца за наш лёс.

**«НН»: А як ты сам успрымаў падзеі, якія ахапілі Украіну?**

**АБ:** Прызнацца, я не ўяўляў, што падзеі, якія адбываліся ва Украіне, магчымыя. Самаарганізацыя ўкраінцаў проста неверагодная, іх узровень адданасці не можа пакінуць абыякавым. Ты бачыш прыгожых дзяўчат, якія бегаюць пад кулямі і разносяць гарбату, ты бачыш вельмі ўплывовых бізнэсоўцаў, якія са сваіх крутых багажнікаў раздаюць сродкі для сугрэву, кшталту грэлак.

**«НН»: А што тычыцца штодзённага жыцця па-за межамі Майдану, які настрой пануе ў грамадстве?**

**АБ:** Што тычыцца нават Кіева, калі ты адыходзіш метраў 500 ад Майдану, то рэвалюцыя нават не адчуваецца. Майдан ёсць у размовах, у прэсе, але жыццё людзей не змянілася. Настрой розны, ёсць, пэўна, працэнтаў 20 людзей, якія ставяцца да таго, што адбываецца, негатыўна, некаторыя хадзілі на Майдан толькі дзеля таго, каб пакрычаць, як яны ўсё засмецілі.

**«НН»: Мяне ўвесь час дзівіла «акуратнасць» гэтай рэвалюцыі, ніякага вандалізму, разбітых шыбаў, масавага палення машын.**

**АБ:** У Кіеве ёсць людзі, даволі вялікі адсотак, якія лічаць, што майданаўцы сапсавалі горад, што хопіць стаяць і трэба ўсё прыбраць. Гэта, канечне, не рэвалюцыя 17-га года. На кожным слупе не вісяць чыноўнікі ці яшчэ нехта. Рэвалюцыя адбываецца кропкава, пару метраў ад цэнтра — і нібыта нічога і не было.

**«НН»: З усяго шэрагу падзей, якія там адбываліся, што было найбольш складана здымаць?**

**АБ:** Гэта пахаванні. Я разумею, што не ўмею іх здымаць і не хачу вучыцца.

**«НН»: Наколькі цяжка было працаваць псіхалагічна?**

**АБ:** Я не думаў пра сябе, цяжка было больш фізічна, бо ўвесь час на нагах, ты то здымаеш, то мантуеш, мала спіш. Гэта цяжка.

**«НН»: Пабачыўшы ўсё на ўласныя вочы, пагутарыўшы з вялікай колькасцю ўкраінцаў, у чым іх галоўнае адрозненне ад нас?**

**АБ:** Гэта адсутнасць страху. І здольнасць ісці да канца без думак, што цябе адлічаць з універсітэта ці звольняць з працы. Ну і, канечне, іх бязмерны патрыятызм. Магчыма, беларусы раней былі такімі і, магчыма, стануць ізноў, але пакуль мы зламаныя.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

# Прафесар МГІМО Зубаў: Суайчыннікі, мы паўтараем тое, што рабіў Гітлер!

Сябры. Мы на парозе. Мы на парозе не ўключэння новага суб'екта ў склад РФ. Мы на парозе поўнага разбурэння сістэмы міжнародных дамоваў, эканамічнага хаосу і палітычнай дыктатуры.

Мы на парозе вайны з нашым найбліжэйшым, братнім народам Украіны, рэзкага пагаршэння адносін з Еўропай і Амерыкай, на парозе халоднай, а магчыма, і гарачай вайны з імі.

Усё гэта ўжо было.

Аўстрыя. Пачатак сакавіка 1938 года. Аўстрыйскія войскі капітулююць. Народ або захоплена сустракае гітлераўцаў, або ў раздражненні адседжваецца па дамах, або тэрмінова бяжыць у Швейцарыю. Кардынал Аўстрыі Ініцэр вітае і дабраслаўляе аншлюс...

Плебісцыт правялі 10 красавіка. У Германіі за аб'яднанне з Аўстрыяй прагаласавалі 99,08%, у самой Аўстрыі, якая стала Остмарк Германскай імперыі, — 99,75%.

1 кастрычніка 1938 года таксама былі аб'яднаныя з адзінакроўнай Германіяй чэшскія Судэты, 22 сакавіка 1939 г. — літоўская вобласць Клайпеды, якая ператварылася ў адзін дзень у нямецкі Мемель. Ва ўсіх гэтых землях сапраўды жылі збольшага немцы, паўсюль многія з іх сапраўды хацелі злучыцца з гітлераўскім рэйхам. Паўсюль гэтае ўз'яднанне прайшло пад фанфары і крыкі радасці звар'яцелага ў шавіністычным угары натоўпу і пры патуранні Захаду. «Мы не павінныя падманваць, а тым больш не павінныя абнадзейваць

Уважаемый господин Путин!
Нас в Германии более 5 миллионов русскоязычных. И здесь нас ущемляют: заставляют работать. А самое главное заставляют говорить на немецком. Во всех организациях, в магазинах, в школах, на работе. Мало того даже дети в детских садах должны говорить по немецки. Спасите нас, введите армию!



малыя слабыя дзяржавы, абяцаючы ім абарону з боку Лігі Нацый і адпаведныя крокі з нашага боку, — казаў Нэвіл Чэмберлен у Брытанскім парламенце 22 лютага 1938, — бо мы ведаем, што нічога такога нельга будзе распачаць».

I зусім іншае казаў Адольф Гітлер 23 сакавіка 1939 года з балкона на Тэатральнай плошчы толькі што далучанага Мемеля. За дзве гадзіны да таго ён тэатральна ўплыў на борце найноўшага лінкара «Германія» ў мемельскі порт. «...Немцы не збіраюцца нікому ў свеце рабіць нічога дрэннага, але трэба было спыніць пакуты, якім 20 гадоў падвяргаліся немцы з боку цэлага свету... Мемельскіх немцаў Германія аднойчы ўжо кінула на волю лёсу, калі змірылася з ганьбай і няславай. Сёння мемельскія немцы... зноў робяцца грамадзянамі магутнага Рэйху, рашуча настроенага ўзяць у сваё рукі свой лёс, нават калі гэта не падабаецца палове свету».

I ўсё здавалася такім прамяністым. I слава Гітлера ззяла ў зеніце. I перад Вялікай Германіяй трымцеў свет.

Далучэнне абласцей і краін да Рэйху без адзінага стрэлу, без адзінай кроплі крыві — хіба фюрэр не геніяльны палітык?

А праз шэсць гадоў Германія была паваленая, мільёны яе сыноў забітыя, мільёны яе дачок зняважаныя, яе гарады сцёртыя з твару зямлі, яе культурныя каштоўнасці, што накопліваліся стагоддзямі, ператварыліся ў пыл. Ад Германіі былі адабраныя 2/5 тэрыторыі, а рэшта падзеленая на зоны і ўключаная ў склад дзяржаваўпераможцаў. I ганьба, ганьба, ганьба накрыла галовы немцаў. А ўсё пачыналася так прамяніста!

Сябры! Гісторыя паўтараецца. У Крыме сапраўды жывуць рускія. Але хіба хто-небудзь прыцiскаў іх там, хіба там яны былі людзьмі другога гатунку, без права на мову, на праваслаўную веру?

Ад каго іх трэба абараняць салдатам расійскай арміі? Хто нападаў на іх? Увод войскаў замежнай дзяржавы на тэрыторыю іншай дзяржавы без яе дазволу — гэта агрэсія. Захоп парламента асобамі ва ўніформе без апазнавальных знакаў — гэта анархія. Прыняцце якіх-небудзь рашэнняў парламентам Крыма ў такіх абставінах — фарс. Спачатку парламент захапілі, прэм'ера змянілі на прарасійскага, а потым гэты новы прэм'ер папрасіў у Расіі дапамогі, калі памочнікі ўжо тут, ужо дзень як кантралююць паўвостраў. Як дзве кроплі вады падобна да аншлюсу 1938. I нават паспешлівы рэферэндумплебісцыт пад дружалюбнымі штыхамі. Там — 10 красавіка, тут — 16 сакавіка.

Ці пралічыла расійская ўлада ўсе рызыкі гэтай неверагоднай авантуры? Упэўнены, што не. Як і Адольф Алаізавіч у свой час не пралічыў.

Атрымаўшы Крым, разадраны ўнутранымі сваркамі, мы назаўжды страцім народ Украіны — украінцы не даруюць рускім гэтай здрады ніколі.

Сябры! Нам трэба апамятацца і спыніцца. Нашы палітыкі ўцягваюць наш народ у страшную, жахлівую авантуру. Гістарычны досвед кажа, што нічога не абыдзецца так.

Мы не павінныя весціся, як павяліся ў свой час немцы на абяцанкі Гебельса і Гітлера.

Мы страцілі столькі жыццяў у XX стагоддзі, што адзіна верным нашым прынцыпам павінен быць прынцып, абвешчаны вялікім Салжаніцыным — захаванне народа.

Захаванне народа, а не збіранне земляў. Землі збіраюцца толькі крывёю і слязьмі.

Ні крыві, ні слёз нам больш не трэба!

**Андрэй Зубаў, доктар гістарычных навук, прафесар МГІМО**

*Скарочана, з газеты «Ведомости»*

### Акупацыя Крыма: два погляды

#### Паводзіны Расіі подлыя

Расея страціла апошні розум. Яе паводзіны з Украінай подлыя. Бегае з кайстраю за чужым прывідным шчасцем, а насамрэч тая кайстра — скрыня Пандоры. Нічога, акрамя гідлівасці і трывогі, «саюзная дзяржава» не выклікае. Ніякіх «саюзаў», ні азіяцкіх, ні еўрапейскіх Беларусі не трэба!. Прэч расейскія базы з Беларусі!

**Мікалай Бусел, народны чытака і селькар, Дубрава (Светлагорскі раён)**

#### Балюча глядзець на Украіну

Вы няправільна асвятляеце падзеі ва Украіне.

Мы жывём на мяжы з Украінай і бачым рэальнае становішча там. У нашых калгасах на памежных тэрыторыях і так поўна жыхароў Украіны, якія робяць на такіх работах, на якіх нашы людзі не хочуць рабіць, бо заробкі нізкія. А яны і гэтаму радыя. А што будзе зараз там? Калі развальваўся рэжым Януковіча, з вуліц знікла міліцыя. Быў бандытызм на дарогах...

Балюча глядзець на Украіну. Найхутчэйшага ёй выздараўлення і стабілізацыі.

**Аляксандр Брыштэн, Кобрын**

**Ад Рэдакцыі.** Подзвіг тых украінцаў, якія аддалі жыццё за свабоду і еўрапейскую мару, уражвае. Важна, што ўкраінцы самі хочуць вызначаць сваю долю.

Праблемы Украіны, сапраўды, складаныя, і не факт, што да ўлады ўрэшце там прыйдуць здаровыя, некарумпаваныя сілы. Расія навязвае Украіне вяртанне карумпаванага Януковіча, душыць цэнамі на газ і забаронамі на ўкраінскія тавары. Акрамя таго, расійскія СМІ распаўсюджваць шмат фальшывак пра Украіну.

Рашаецца сёлета, быць ці не быць Украіне. Але таксама: быць ці не быць сусветнаму парадку, які склаўся пасля Другой сусветнай вайны. Бо калі Расія адхопіць Крым, то можа пачацца ланцуговая рэакцыя. Будзе права моцнага — як у часы Першай ці Другой сусветных войнаў. Хто дужы, той і адхапіў. Пачнецца тады перадзел свету, і крыві будзе мора...

### З гумарам

## Плацяць усе!

«Калі ўвядуць плату за наведванне паліклінікі, пенсіянеры вымруць»… ад нуды!

I не сімвалічныя смяхотныя сумы, як меркаваў прэм'ер-міністр, астолькі, каб адбіваць ахвоту хадзіць у паліклініку кожны дзень. Суседка, якой 89 год, несла ранараненька скрутак. Я думала, смецце хоча выкінуць, прапанавала дапамогу: быў мароз, завея…

— Не, гэта мая мача, нясу ў паліклініку.

Удзень яна хвалілася, седзячы на лаўцы:

— Бялку няма, цукру няма, «лікацыцікаў» няма…

Акрамя самагонкі, разведзенай мачой, нічога няма.

Хадзіць па ўсіх дактарах: «У мяне нічога не баліць, але ж няхай дактары мяне ўсюль агледзяць!» А чаму б не схадзіць на «агледзіны», калі паслязаўтра ёй надыдзе 90?! Камусьці рынапластыка каштавала жыцця, а бабцы ахвота на «лікацыцікі» праверыцца.

Прафілактычныя агляды… Чэргі. Каму патрэбныя такія агляды? Стагысцыцы, для ўрачыстых рэляцый. Прайшоў медагляд у красавіку мой былы кіраўнік, 41 год. «Здаровы, годны». У чэрвені пазванілі са шпіталя: «Забірайце, памёр — саркома лёгкіх». Не піў, не курыў, у валейбол гуляў, а трэба было ў хакей. Хакеісты бессмяротныя, калі толькі самалёт не падвядзе, будуць гуляць у хакей да 114 год...

**Таццяна Карэліна, Мінск**

### Водгук

## «Прысуд мастацтву Пазняка: прыняць ці не» (№6)

Шаноўны Уладзімір Падгол! Супыніцеся!

Зусім не па тэме прыклады У.Падгола, якія не супярэчаць мастацтву Зянона Пазняка. Так, Васіль Быкаў не толькі ў аповесці «Аблава», але і ў іншых сваіх творах апісвае чалавечы Выбар. Аб гэтым гаворыць і Лявон Баршчэўскі. Выбар паміж Дабром і Злом, дзе Добра перамагае. Гэта прыгожа. Як піша Зянон Пазняк, «патрэбная менавіта такая літаратура — заснаваная на прыгожых, станоўчых, пазітыўных ідэалах, якія ўзвышаюць чалавечы дух». Падаецца, сп. Падгол і сам з гэтым пагаджаецца, «што гэта мацуе дух чытача перад выпрабаваннямі выбару і спрыяе набліжэнню яго істоты да ўзораў Творцы». Трэба пісаць пра добрых, сумленных людзей.

Мне спадабалася выказванне нашага выдатнага пісьменніка Андрэя Федарэнкі («Белсат», «Зоры не спяць»), дзе ён станоўча выказваецца аб дзіцячай савецкай літаратуры (А.Гайдар і інш.) і раіць чытаць гэтыя добрыя кніжкі для дзяцей. Творы, асабліва дзіцячыя, павінны даводзіць перамогу Дабра над Злом. Так павінна быць. І так будзе.

Бо «замест пустазелля і палыну» на шмат якіх прасторах ужо зараз «квітнеюць белыя і чырвоныя кветкі». Прыглядзецеся да гаспадарчых падворкаў, спадар Падгол. Прабачце, спадар Падгол, але Вы не маеце аніякага права пісаць пра «прысуд» мастацтву Зянона Пазняка, як і іншых творцаў, Кнігу ацэніць кожны чытач для сябе, калі пазнаёміцца з сапраўды выдатнымі яго творамі.

**Галіна Кавалевіч, Бяроза**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам. **Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

### Давялі

## Адрамантуйце вуліцу Астрожскага!

Мы, жыхары горада Маладзечна, пражываем на вуліцы Астрожскага. Няма сіл больш ужо звяртацца да гарадскіх уладаў з просьбай адрамантаваць дарогу, па якой, акрамя транспарту, ходзяць людзі, дзеці ў школу.

Калі горад рыхтаваўся да Дажынак, то ў аб'езд транспарт пускалі менавіта па Астрожскага і казалі, што потым адрамантуюць. І вось як вуліца выглядае праз тры гады (відэа даслана ў Рэдакцыю).

### Паштовая скрынка

**Тадэвушу М. з Гродна.** Папольску матэрыялаў не публікуем. Ваша меркаванне перадамо Анатолю Сідарэвічу.

**Віктару С. з Пінска.** Ваша жонка ехала на электраскутары ў стане алкагольнага ап'янення, таму ён быў сканфіскаваны на законных падставах. Цяжкасці, якія выклікала гэтая канфіскацыя, зразумелыя. Але закон нельга парушаць нікому, у тым ліку і сваякам інвалідаў першай групы. У пытанні вяртання скутара звяртайцеся ў кампетэнтныя органы, а па грошы на аплату штрафа за яго звярніцеся ў дзяржаўныя структуры, найперш — у райвыканкам.

# Хто сядзіць за «мінараванне» мінскага метро?

Акрамя ўраджэнца Караганды, у справе ёсць **іншы фігурант**.

Мінскае метро спынілі на тры гадзіны 26 лютага. Як пазней расказалі ў сталічнай міліцыі, студэнтка Алена Мацкела паведаміла ахове падземкі пра смс-паведамленне, падгледжанае на мабільніку ў пасажыра. Той нібыта пісаў пра планы ўзарваць выбухоўку. Давялося праводзіць эвакуацыю. Бомбу не знайшлі, але ў той жа дзень затрымалі падазронага пасажыра. Гэта 35-гадовы ўраджэнец Казахстана, які жыве на Міншчыне. У дачыненні да яго заведзена крымінальная справа за «загадзя ілжывае паведамленне пра небяспеку».

Гэта афіцыйная версія. Але, як аказалася, у справе ёсць прынамсі яшчэ адзін фігурант — Андрэй Кашэўскі. У той дзень, калі ў метро шукалі выбухоўку, у Смалявічах адбыўсяператрус на лецішчы ў бацькоў Андрэя.

«Я быў у хаце, калі ў дзверы пагрукалі міліцыянты, запыталіся, ці тут мой сын. Кажу: «Няма». А яны прывялі панятых, зайшлі ў хату і пачаліператрус, — расказвае Часлаў Кашэўскі. — Запытваюся: «А што здарылася, на якой падставеператрус?» — «Гэтага вам сказаць не можам». Палезлі па шафах, паліцах, на гарышча... Каб вы толькі пабачылі, у што ператварыўся дом! Знайшлі нейкія экалагічныя часопісы, Дэкларацыю правоў чалавека... Сказалі, што гэта забароненая літаратура, і забралі з сабой.

Андрэя схапілі, калі ён прыехаў дадому, здаецца, 28 лютага. І тады толькі сказалі, што падазраюць яго ў тым, што паралізаваў працу метро. Некуды патэлефанавалі, пад'ехала «хуткая», і сына павезлі».

Андрэю — 34 гады. Яго бацькі — пенсіянеры. На лецішчы ў Смалявічах мужчына жыве з бацькам. Маці з дочкамі прыязджаюць з Жодзіна ледзь не штодня. На лецішчы — куры, свінні і сабака Дружок.

Андрэй Кашэўскі цяпер знаходзіцца ў РНПЦ псіхічнага здароўя ў Навінках. Нам удалося ўбачыцца з ім. Паводле матэрыялаў справы, яму прыпісваюць тое, што зрабіў муляж бомбы і паклаў яго ў метро 26 лютага. І ў дадатак пагражаў забіць свайго бацьку. Часлаў Кашэўскі абураецца, бо нічога пра гэта не ведае — кажа, што з сынам у добрых стасунках.

Андрэй жа лічыць, што прычынайператрусу сталі жоўта-блакітныя стужкі, за якія яго затрымлівалі ажно 6 (!) разоў за месяц. За праяву салідарнасці з украінскім народам ён нават адседзеў на сутках. «Мяне затрымалі тады ў метро. Напісалі ў пратаколе, што я нібыта не падпарадкоўваўся міліцыі, спрабаваў збегчы. Вось я і атрымаў 10 сутак. Хаця да гэтага ў мяне толькі забіралі значок і жоўта-блакітную стужку, а пасля адпускалі. Рэч у тым, што на Новы год я быў у Кіеве, хадзіў на Майдан. Цяпер у мяне следчыя і дапытваліся, чаму ездзіў, што рабіў, што адтуль прывёз. Калі яны падазраюць, што гэта я рыхтаваў нейкі тэракт, чаму не забяруць мой мабільны і не пашукаюць у ім тую смс-ку?»



«Бацькі майго мужа былі рэпрэсаваныя — сям'ю выслалі ў Архангельскую вобласць. Не ўсе даехалі, некалькі чалавек загінулі потым на лесапавале. Пасля была рэабілітацыя. Андрэй хадзіў у КДБ і прасіў паказаць дакументы. Ягонай асобай зацікавіліся. Тады ж, у 2007-м, ён зладзіў пікет супраць Лукашэнкі. Казаў, што ў нас няма выбараў, што трэба выбіраць па законе... Яго абвінавацілі ў абразе прэзідэнта і пакаралі штрафам ажно ў $900. І месяц Андрэя трымалі ў Навінках. Потым мы даведаліся, што яго паставілі на псіханеўралагічны ўлік.

Сын цікавіцца беларускай гісторыяй і гісторыяй свайго роду. Вось нават ручнічок з беларускім арнаментам на крэсла паклаў. Толькі доктар сказала мне, што гэта ненармальна, маўляў, гэта шызафрэнія», — кажа Валянціна Кашэўская.

Дарэчы, 4 сакавіка, у той час, калі Андрэй знаходзіўся ў шпіталі, а затрыманы ўраджэнец Караганды ў ізалятары, амаль на гадзіну была перакрыта станцыя метро «Купалаўская». Па заявах міліцыі, нецвярозы мужчына падышоў да машыніста цягніка і паведаміў яму, што на станцыі рыхтуецца выбух. Паведамленне было ілжывым, мужчыну затрымалі. Цяпер яму таксама пагражае да пяці гадоў турмы.

**Любоў Лунёва**

**Пільную студэнтку адзначылі**

Дзяўчыну, якая паведаміла ахове падземкі пра падазронае смс-паведамленне, адзначыў кіраўнік сталічнай міліцыі. У Дзень міліцыі Аляксандр Барсукоў падзякаваў Алене Мацкела і ўручыў узнагароду.

**Вышук**



**У крэдыт**

21-гадовы хлопец прасіў студэнтаў з Мінска і Маладзечна браць для сябе ў крэдыт мабілкі і планшэты, а за гэта плаціў 200—350 тысяч рублёў. Затое не сплачваў штомесячныя сумы ў банк. Супраць яго заведзена крымінальная справа за махлярства па 63 эпізодах, але іх можа быць больш. Калі вас ашукаў чалавек на фота, звяртайцеся на (017) 288-77-02.



**Мэбельшчык**

34-гадовы мінчук па выглядам вырабу кухоннай мэблі збіраў замовы і перадаплату, але нічога не рабіў. Павільён арандаваў на рынку ў Ждановічах. Ужо 16 чалавек пайшлі ў міліцыю. Калі вы пацярпелі ад чалавека на фота, звяртайцеся на (017) 288-77-02.

## Пад мостам у Мінску міліцыя знайшла наркасховішча на $60 мільёнаў

Мяркуецца, што затрыманы **ключавы наркадылер сталіцы**.

На след наркадылера выйшлі выпадкова. Інспектар ДАІ вырашыў праверыць кіроўцу «Мерсэдэса», які прыпаркаваўся на тратуары на вуліцы Ванеева. Аказалася, што 37-гадовы менеджар адной з фермерскіх гаспадарак Міншчыны пад наркатой. І з'яўляецца наркаманам са стажам, між іншым, раней судзімым. Тут усё і пачалося. Спачатку ў ягонай машыне знайшлі два шпрыцы з экстракцыйным опіем, больш за 250 грамаў міксаў для палення, паўкілаграма псіхатропу для вытворчасці спайсаў, 100 «марак». У ягоным сховішчы пад мостам на развязцы праспектаў Дзяржынскага і Жукава канфіскавалі яшчэ 2 мільёны «марак» і 13 кг парашку, з якога магло атрымацца 2 тоны спайсаў! Грам сумесі для палення каштуе каля $20. Атрымліваецца, што наркадылер мог зарабіць каля $40 мільёнаў, за «маркі» — яшчэ каля $20 мільёнаў.

Але і на гэтым гісторыя не закончылася. На здымнай кватэры менеджара на вуліцы Кнорына знайшлі больш за 300 тысяч «марак» і 100 грамаў рэагенту для іх вырабу. А ў гаражы мужчыны выявілі наркалабараторыю, дзе знаходзілася 60 кг асновы для спайсаў, 100 грамаў рэагентаў і 5 кг гатовых спайсаў.

Мяркуецца, што менеджар з'яўляецца адным з ключавых пастаўшчыкоў псіхатропаў у Мінск. У нашу краіну яны траплялі з Кітая праз Расію.

**Сяргей Макарэвіч**

**Паведаміць пра наркотыкі можна і праз інтэрнэт**

Як паведамілі ў ГУУС Мінгарвыканкама, праз сайт праекта «Перахоп» (perehvat.gov.by) прыйшло паведамленне, што жыхар Мінскага раёна гандлюе наркотыкамі. Інфармацыю праверылі і ў выніку затрымалі 21-гадовага хлопца, які гандляваў марыхуанай.

«Перахоп» — сайт, створаны мінскай міліцыяй, на якім грамадзяне пакідаюць інфармацыю пра правапарушэнні. Усё правяраецца, а ў выпадку пацвярджэння, вінаватыя караюцца. За два гады працы паступіла 30 тысяч паведамленняў: больш за 7000 чалавек прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці, раскрыта 20 злачынстваў.

## Сцісла

**Забілі школьніка і выкінулі ў раку**

Цела 13-гадовага хлопчыка знайшлі ў Беразіне раніцай 4 сакавіка. Па падазрэнні ў забойстве затрымалі такіх жа непаўналетніх — двух 15-гадовых школьнікаў. Падлеткі былі нападніткy ў той дзень. Як і што адбылося, следчыя пакуль не расказваюць. Хлопчык жыў з бабуляй — маці сядзіць у турме.

**Страляў у міліцыянта**

Таксіста, які п'яным збіў жанчыну на пешаходным пераходзе ў Мінску, будуць судзіць. У кастрычніку таксіст з'ехаў з месца аварыі, а затым яшчэ аказаў супраціў міліцыянтам: у аднаго з іх страляў з «Браўнінга» і нанёс баратраўму вуха. Таксіст раскаяўся, аднак віну прызнаў часткова — адмаўляе намер забіць супрацоўніка міліцыі.

**Дзіця згарэла, калі засталося адно**

Здарэнне адбылося днём 5 сакавіка ў Магілёве. Калі пачаўся пажар, трохгадовая дзяўчынка была дома адна. Маці пайшла на працу, брат у школу, бабуля на вуліцы карміла сабаку. Пачуўшы гук пажарнага апавяшчальніка, бабуля паспрабавала ўвайсці ў дом, але не змагла. Пры спробе выратаваць унучку яна атрымала апёкі 1-3 ступені рукі і была шпіталізаваная.

**Атрымаў віламі ў жывот, але не кінуў піць**

Жыхар Ваўкавыска працяглы час жыў у Расіі, а вярнуўшыся дахаты, вырашыў адзначыць прыезд. П'янка расцягнулася на некалькі дзён, мяняліся месцы і сабутэльнікі. У адным з дамоў падчас сваркі гаспадар схапіўся за вілы, якімі прыцiснуў свайго госця да зямлі. Але гэта яго не спыніла — працягнуўпіць ужо ў іншым месцы, дзе яму і стала дрэнна.

**Згарэла сем жывёл**

У мінскім заапарку 9 сакавіка згарэлі тры вожыкі, дзве львінахвостыя макакі, яванская макака, плямістая генета. Загарэўся будынак, дзе яны знаходзіліся. Пажарным удалося выратаваць насельнікаў міні-экзатарыума. Прычына ўзгарання, яе мяркуецца, замыканне электраправодкі.

**КМ**

# Канчатковае рашэнне праваслаўнага пытання

Як у СССР **знішчалі Царкву**.



**Драўляная Чыгуначная царква (справа), капліца (злева) і каменная Свята-Казанская царква (у цэнтры) на будучай плошчы Мяснікова ў Мінску. Фота 1930-ых. Усе іх зруйнуюць.**

У 1938 годзе ў БССР засталіся тры адкрытыя царквы: у Бабруйску, Оршы і Мазыры. У іх служылі, з амаль поўнай імавернасцю можна меркаваць, завербаваныя НКВД агенты, у задачу якіх уваходзіла выяўляць вернікаў-актывістаў. Выяўленых — арыштоўвалі, «судзілі» па артыкулах аб «антысавецкай дзейнасці». Гэта значыць, забівалі або адпраўлялі на 10—25 гадоў у канцлагеры. НКВД БССР лічыла, што гэтага мала для збору інфармацыі, і наркам Наседкін* накіраваў у ЦК ВКП(б) прапанову адкрыць яшчэ 10—12 цэркваў, у якіх бы служылі агенты або такія святары, якія б сваімі паводзінамі дыскрэдытавалі царкву: «Для быстрого нанесения оперативного удара по антисоветскому церковному активу и для антирелигиозного разложения отсталых религиозных масс считаем необходимым допустить возобновление служб в ряде церквей (10—12), которые функционируют и вопрос о которых не поднимался», — цытуецца ў кнізе дакумент.

Кадры з ліку агентуры? На ўліку органаў унутраных справаў па стане на 1938 стаялі 15 святароў, 13 з якіх былі зняўшы з сябе сан.

Кніга Андрэя Заеркі «Поруганное православие» — адна з самых страшных кніг, якую мне давялося чытаць.

Страшных нават не тым, што там апісваюцца забойствы, катаванні, перадаванне арыштаваных святароў і епіскапаў на расцярзанне уркам у блатныя камеры — уркам, якія сівых бацюшак мачалі ў парашу. Не, яна найбольш страшная тым, што Заерка паказвае механізм дзеяння няўмольнай машыны, савецкіх спецслужбаў, якой не было як супраціўляцца. Ані кампраміснасць мітрапаліта Мелхісэдэка, ані гарачнасць епіскапа Іаана (Пашына), ані маладушнасць — такім яго лічыла ГПУ ў даступных Заерку дакументах — Філарэта (Раменскага), нічога з гэтага не ратавала ані царквы, ані жыцця. Ніхто з іх не выжыве, а царкву знішчаць.

Гэта пасля Царкву дастануць з архіваў у 1943 годзе, калі Сталіну спатрэбіцца закалыхаць пільнасць Рузвельта і заходняй грамадскай думкі. Легалізаваную Царкву ўкамплектуюць, пераважна, з ліку ацалелых святароў-інфарматараў НКВД. Іх выпусцяць з лагераў і вернуць да служэння. Гэтыя і стануць яе епіскапамі.

Заерка, дарэчы, слаба раскрывае лёсы святароў-агентаў. Іхныя лёсы было б цікава прасачыць.

*** Аляксей Наседкін**

да прызначэння ў БССР у 1938 годзе — начальнік УНКВД СССР па Смаленскай вобласці. У 1938 годзе быў арыштаваны, у 1940 — расстраляны і не рэабілітаваны.




Поруганное православие. История православной церкви. 1917—1939. В двух книгах. — Смоленск: Камертон, 2013.

## Доўгая праца па развале

Кніга Заеркі паказвае — праз дакументы з архіваў КГБ, — як ГПУ раздзьмухвала канфлікты ў царкоўным асяроддзі, спрыяла ім, як старанна працавала над тым, каб у кожнай епархіі зарадзілася некалькі плыняў, кожная з якіх спадзявалася, што гэта яна выжыве, што гэта яна захаваецца, а належнасць да іншых смяротна небяспечная для душы ці для цела.

Заерка ўскрывае механізмы паслядоўнай, метадычнай, шматгадовай працы ГПУ і НКВД па знішчэнні царквы. Спачатку падтрымлівалі слабых супраць моцных, амбітных супраць ціхмяных. Не давалі ўзмацніцца ніводнай групе, трымаючы раўнавагу сілаў, каб ні вакол каго не магло адбыцца аб'яднанне.

Заерка піша, як ГПУ прымусіла мітрапаліта Сяргея пад пагрозай забойства ўсіх святароў царквы абвяргаць заявы замежных цэркваў пра пераслед вернікаў у СССР. Як пасля суда над мітр. Мелхісэдэкам распаўсюджвала чуткі, быццам ён разам з усімі прысутнымі спяваў Інтэрнацыянал. Праўда, аўтар не ставіць пад сумнеў праўдзівасць звестак з дакументаў ГПУ.

Заеркава кніга ўяўляе сабой хаос дакументаў, хаос цытат. Ён глядзіць на тую царкву толькі вачыма катаў. Гэта вялікая загана кнігі. Яна перадае той страх, але не перадае таго гераізму, які таксама быў.

## Ці шмат было юдаў?

Ці шмат было юдаў? Па стане на 1928 год — пасля ўсіх першых хваляў рэпрэсій, калі ўжо была арыштавана большая частка епіскапаў, калі многія ўцякалі ад царквы або пакінулі краіну, бачачы, куды ўсё каціцца, — у Беларусі заставалася каля 1080 праваслаўных святароў. Тады, па звестках ГПУ, у БССР дзейнічала каля 340 святароў, што адносілі сябе да Аўтакефальнай праваслаўнай царквы, каля 430 святароў, верных «ціханаўскай царкве», і каля 310 «абнаўленцаў».

Выходзіць, толькі 1,5% з іх апусціліся да такой ступені, што іх пакінуць на свабодзе да 1938.

Астатнія да гэтага моманту будуць або забітыя, або адпраўленыя ў канцлагеры. За што? За публічнае чытанне евангелля, за правядзенне хросту дзяцей... За што хочаш.

Уладыкі спрабавалі розныя тактыкі. Мітрапаліт Мелхісэдэк, да прыкладу, усе 1920-я шукаў кампрамісаў, спадзеючыся захаваць царкву ў новай сістэме.

## Можа, трэ было супраціўляцца?

Ці спраўджваюцца знакамітыя словы Салажніцына пра памылку тых, хто не супраціўляўся? Што каб супраціўляліся НКВДыстам са зброяй, то і тыя баяліся б?

Не, акурат кампраміс даваў шанец выжыць ці прынамсі пражыць даўжэй. А гэта давала хоць прывідны, але шанец дажыць да смерці тырана або змены міжнароднай сітуацыі, што магло спыніць крывавую мясарубку.

Тых, што супраціўляліся адкрыта, забівалі адразу.

Больш таленавітых, найбольш здатных арыштоўвалі першымі. Менш таленавітых, непапулярных пакідалі на свабодзе.

## Царква ў гета

Спачатку, у першай палове 20-х, арыштоўвалі тых, хто ўдзельнічаў у нейкіх акцыях супраць савецкай улады. У другой палове 20-х арыштоўвалі тых, хто выступаў супраць савецкай улады на словах. Але гэта не перашкаджала судзіць і тых, каго проста лічылі занадта папулярным — суд над крайне стрыманым мітр. Мелхісэдэкам адбыўся ў 1925.

Ад 1929 сталі арыштоўваць тых, супраць каго і доказаў не было, але ў прыходах якіх адбываліся бунты супраць савецкай улады.

Пасля, у 1930-х сталі арыштоўваць і высылаць усіх запар — проста па плане разгрому.

Нарэшце, надышоў 1937 год, калі было прынята рашэнне пра канчатковае рашэнне царкоўнага пытання. Сталі пагалоўна расстрэльваць усіх — не толькі тых, хто быў святаром, але і тых, хто быў святаром *калісьці*.

15 гадоў царква дзейнічала ў гета, па ўсіх законах гета. Страшны спектакль: апускаецца рука, выхоплівае чалавека. Астатнія застаюцца. Што хто робіць? Гэтая сартраўская, быкаўская безвыходнасць — вось што страшнае ў гісторыі Усходняй Еўропы.

Жахае і тое, што ўсё гэта заставалася практычна незаўважным звонку. Захад даведаўся пра маштабы савецкіх злачынстваў супраць чалавецтва толькі ад эмігрантаў, якія аказаліся на Захадзе. А паверыў пасапраўднаму толькі пасля публікацыі высокамастацкага «Архіпелага ГуЛАГ».

Пад корань былі вынішчаны патомныя святарскія роды Кульчыцкіх, Кіркевічаў, Ясінскіх, Рубановічаў, Плышэўскіх, Мацкевічаў, Навіцкіх, Свірскіх, Пастарнацкіх... Дарэчы, многія з іх актыўна падтрымалі ў 20-я ідэю беларускай аўтакефаліі, якая ў цяжкія гады з'яднала прыкладна трэцюю частку ўсходнебеларускіх праваслаўных прыходаў.

## 56%

Што датычыць літаратурнага і навуковага боку кнігі, то канечне, там не ўсё гладка. Не было ні рэдактара, ні карэктара, ні тым больш навуковага рэдактара. Памылак, збояў маса. Што ж, хай будуць перавыданні, з навуковай рэдактурай.

Што найгорш — ёсць спіс крыніц, але няма спасылак на канкрэтныя крыніцы пасля цытат. У выніку цяжка крытычна ацэньваць цытаты.

Такое ўражанне, што аўтар спяшаўся выдаць зробленае, баючыся, што не паспее.

Вывады Заеркі часам абсалютна нелагічныя. Ён піша, што «беларускае грамадства, у большасці сваёй, на добраахвотных пачатках і нават з адценнем задавальнення паддалося на дзяржаўны атэізм». Але хіба прыведзеныя ім факты пасіўнага і актыўнага супраціву не сведчаць пра адваротнае? Ці сам факт, што на перапісе ў крывавым 1937 годзе 56% савецкага насельніцтва ўпарта назвалі сябе вернікамі, не пярэчыць яго высънове?

Напрошваецца іншая выснова: савецкі рэжым быў дыктатурай меншасці, а дыктатура не лічыцца з думкай большасці. Мае значэнне толькі падтрымка ўзброеных апрычнікаў.

## Апошні жэст Філарэта

...За тры месяцы да арышту, увесну 1937 года, епіскап Філарэт (Раменскі), якога ГПУ, а пасля НКВД пакінула на свабодзе апошнім, бо лічыла слабавольным і баязлівым, зрабіў сімвалічны жэст: ён дазволіў вернікам-каталікам маліцца ў апошняй адкрытай праваслаўнай царкве Святой Марыі Магдаліны ў Мінску на Старажоўцы і загадаў святарам хрысціць дзяцей-каталікоў, даючы ім каталіцкія імёны, па каталіцкім календары. У даступных аўтару архівах няма сведчання, што еп.Філарэт быў агентам НКВД. Значыць, яго жэст быў зроблены не па зладзейскім загадзе, а ад душы. Усе адзіныя сталі. Праз тры месяцы будзе арыштаваны і Філарэт, разам з апошняй групай самых маўклівых мінскіх святароў. І расстраляны.

Для ляжаць? Прыгавораныя да «ВМН» — высшей меры наказания — у Курапатах. Тых самых Курапатах, дзе цяперашнія праваслаўныя епіскапы не служаць. І гэты факт, што не служаць, многае пра іх кажа.

**Андрэй Дынько**

# Папялушка, альбо Карона кітайскай прынцэсы

**Уладзімір Рабіновіч**. Апавяданне.

— Слухай, — сказала жонка, — давай Валю выклічам. — Яна сама дарогу аплаціць і ўсё астатняе таксама.

— Выклікай, але глядзі, ты ж сваю сястру ведаеш.

— Ды ладна. З тых часоў так шмат гадоў мінула. Там перабудова была, усё змянілася. Людзі зусім іншыя сталі.

— Выклікай.

Праз месяц пасля гэтай размовы мы забралі Валю з аэрапорта Кенэдзі. Дадому ехалі па Belt Parkway. Злева цягнулася маркотнае бруднае бруклінскае ўзбярэжжа, а справа ішлі масівы цёмна-карычневых білдзінгаў з пажарнымі лесвіцамі вонкі.

— Дзе ж Амерыка? — спытала Валя расчаравана.

— У Манхэтэне, — сказала мая жонка.

Першыя два дні Валя сядзела ў кватэры і на вуліцу выходзіць адмаўлялася. Адно падыходзіла да акна, калі міма праязджала пажарная або хуткая дапамога.

— Валя, — сказала жонка на трэці дзень зняволення, — у нас смятана скончылася, схадзі купі.

— Як яе купляць?

— Возьмеш слоік з-пад смятаны, зойдзеш у краму, дзе прадаюць прадукты, пакажаш слоік, скажаш «муму» і дасі грошы, — патлумачыў я.

— А калі мяне падмануць?

— Тут па такіх дробязях не падманваюць.

Вярнулася Валя праз гадзіну, вельмі задаволеная сабой. Паставіла на стол слоік смятаны і высыпала рэшту. Не падманулі.

— Я тут з адным чорным крамнікам старгавалася, — сказала яна.

— Што ён прадаваў?

— А чорт яго ведае, такія штукі круглыя.

— Як жа ты старгавалася без мовы?

— Па-глуханямому. Я ў яго пытаюся: «колькі?» А ён мне чатыры пальцы паказвае. А я так галавой матляю і паказваю адзін. А ён пакрыўдзіўся і махае на мяне рукамі. А я тады быццам бы плюнула на зямлю, расцерла і пайшла. А ён мне ўслед крыкнуў.

— Што ён табе крыкнуў?

— Вось, я запісала.

— Валя, гэта абраза.

— Моцная?

— Жахлівая.

— Слухай, — узмалілася яна, — напішы мне на паперцы ўсю іх лаянку, я яму ў наступны раз адкажу.

— Ды іх усяго чатыры: «ідзі нах...», «смакчы чэлес», «дзірка ў срацы» і «дурань». Ты б лепш звычайную англійскую села вучыць.

— Навошта яна мне? Я не збіраюся жыць у гэтай вашай Амерыцы.

Пачынаць просьбы з гэтага спеўнага жаласлівага «слу-ухай» — у іх сямейнае, генетычнае.

— Слухай, — сказала жонка, — з'ездзі з ёй у Манхэтэн. Хай паглядзіць там на крамы, хмарачосы. Ну што яна будзе тут у Брукліне сядзець: дарма прыехала ці што?

— Добра, — сказаў я Валі. — Мне трэба сёе-тое ў Манхэтэне купіць. Паедзем са мной, я пакажу табе неверагодную краму, называецца Music World.

— А што там прадаюць?

— Музыку.

Ці бачылі вы калі-небудзь Music World? Не, вы не бачылі Music World. Святыню, храм, дзе штодня здзяйсняецца пакланенне і ахвярапрынашэнне Богу Музыкі. Толькі пад джазавы аддзел адведзеная плошча невялікага беларускага саўгаса. Якая вар'яцкая ідэя: запісаць і захаваць у лічбе ўсю музыку, якую стварыла чалавецтва! І гэтыя вар'яты, што блукаюць у лабірынтах: фанаты, меламаны, хайфайшчыкі. Стойкі, шэрагі, калоны дыскаў.

Увесь бізнэс трымаюць у руках хасіды, цалкам абыякавыя да праявы гэтай чалавечай слабасці — музыкі. Але камерцыйны разлік дакладны: тавар — грошы — тавар. Тавар — грошы — грошы. Грошы — грошы — грошы. Кіруюць пейсатыя бізнэсам з глыбіні офісаў. У зале іх ніколі не відаць.

Бывала, познім вечарам, пасля 12-й гадзіны, у жоўтым таксі ўжо сіл ніякіх няма. Wall street зачыніўся, і толькі Music World асвятляе ўсё на мілю вакол сваімі агнямі. Тут — апошнія пакланенні, апошнія ахвярапрынашэнні на касе. І я нясу свой дваццатнічак. Марсалесы — два браты і тата — геніяльныя чорныя малпы: труба, саксафон і фартэпіяна. Я іх толькі што чуў па 99,1 FM. Як нікчэмны п'яніца, адбіраю дваццаць даляраў у сям'і, у жонкі і дзіцяці. Сорамна.

І сёння я зноў тут. Вось ужо сэйлсман, джамайскі чорны мой прыяцель па мянушцы Максімка бяжыць насустрач: «Для вас, сэр, першае выданне на кампакце! Bill Evans, калі ён яшчэ граў са Scott LaFaro».

А Валя, дзе ж Валя? Забалбатаўся я тут з вамі. Валю спыніў на ўваходзе сек'юрыці. Валя, у бэзавым вязаным берэце, у чырвоным балоневым паліто і карычневых ботах на высокіх абцасах, якія носяць толькі прастальткі, не прайшла фэйс-кантроль.

— Навошта ты мяне сюды прывёў? — кажа Валя, і голас яе дрыжыць ад крыўды.

— Валечка, гэта самая вялікая ў свеце музычная крама!

— Каму нафіг трэба столькі музыкі!

— Маеш рацыю, сваячка, даруй дурню. Я не павінен быў цябе сюды цягнуць. Паехалі, я пакажу табе тое, што ты хочаш.

Ці ведаеце вы, што такое камунізм? Не, вы не ведаеце, што такое камунізм. Камунізм павінен быў наступіць у 1980 годзе, а ўжо на 1984 Настрадамус прадказаў канец свету. Але калі з канцом свету ўсё здавалася больш-менш ясным, то ў дачыненні да камунізму мела месца нейкая няпэўнасць. Як гэта будзе? Ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па патрэбах? Малочныя рэкі, кісялёвыя берагі? Я, напрыклад, кісель з дзяцінства не люблю. І толькі ўпершыню апынуўшыся ў Chinatown на Canal Street, я зразумеў, што такое камунізм.

Уявіце сабе: шмат кітайцаў — дзесяць тысяч, сто тысяч, мільён, мільярд, і ўсе яны бегаюць тудысюды і гавораць па-англійску з такім акцэнтам, што ўсялякая спроба зразумець іх такая ж безнадзейная, як прачытаць машынны код камп'ютара. І шмат-шмат лавачак, крам, крамачак. І ў кожным дастатак — 99,9 % на душу насельніцтва. Чаго? А чаго хочаце: і фотаапаратаў, і ровараў, і лядоўняў, і магнітафонаў, і тэлевізараў у тым ліку. А цэны смешныя, ну проста ўсё бясплатна.

Вось яна, светлая будучыня ўсяго чалавецтва на асобна ўзятай вуліцы. Туды я і павёў сястру маёй жонкі Валю.

Валя — жанчына рослая, у костцы шырокая, фізічна развітая. Ёй 35 гадоў. У Мінску ў яе засталіся муж і сын дашкольнага веку. Ёй ой як шмат чаго трэба. Вось, да прыкладу, абутак: чалавеку, які пражывае ў няпростым беларускім клімаце, абавязкова неабходны абутак. Спыніліся мы каля абутковай крамы. Крамы, хоць ні вітрыны, ні шыльды — нічога няма. Ёсць будка, тэнт і разнастайны абутак, падвешаны гронкамі на матузках і выкладзены на падстаўках. Толькі хацела Валя паглядзець на абутковае багацце, памарыць, як выскачылі тры кітайцы, тры гномы, і саслабелую ад складаных пачуццяў маладую жанчыну пацягнулі ў глыбіню крамы. Дзесяць хвілін спатрэбілася кітайцам, каб зразумець, што ў Валі грошай няма і купляць яна нічога не будзе. Але гэтых дзесяці хвілін хапіла Валі, каб ацаніць, выбраць і старгаваць для сваякоў, сяброў і для сябе самой на тры сотні даляраў.

Наступнай была крама электронных цацак. Тут Валя павяла сябе больш асцярожна. На прапанову ўвайсці адказала адмовай, толькі абвяла ўсё позіркам, і шчаслівая дзіцячая ўсмешка адбілася на яе твары, калі яна ў думках падзяліла захапленне свайго дзіцяці, свайго хлопчыка, якому падарыла ўсё гэта.

Але самай страшнай, самай невыноснай аказалася вітрына ювелірнай крамы.

Кітайцы — старажытная нацыя, такая ж старажытная, як габрэі, і ведаюць яны пра золата ўсё. Як здабыць золата, як яго апрацаваць, як падрабіць, а галоўнае — як яго прадаць.

На чорным аксаміце ў вітрыне ляжалі залатыя ўпрыгожанні неверагодных памераў. Адной толькі залатой жабы са смарагдавымі вочкамі было б дастаткова, каб забяспечыць патрэбу ў каштоўным метале сярэдняй беларускай сям'і. Тут хапіла б і на заручальны пярсцёнак, і на завушніцы, і на брошку, і на дзве залатыя каронкі для мужа. Але самай галоўнай аказалася залатая карона прынцэсы, якая не проста ляжала на вітрыне дзеля прыгажосці, а прадавалася за даляры. Да аднаго з зубчыкаў кароны залатой нітачкай быў прывязаны цэтлік, на якім значылася цана: 999 даляраў і 99 цэнтаў.

Валя ўявіла сябе ў чорнай сукенцы, якая адкрывае яе прыгожую шыю, плечы і рукі, з каронай на галаве — вось так яна з'явілася б у гасцях у Ленкі Кончыц, суседкі па лесвічнай пляцоўцы.

Валя падышла да вітрыны, прыціснулася лбом да шкла і сказала:

— Усё, я тут застаюся.

— Дзе тут? — спалохаўся я.

— У вас у Амерыцы.

У той жа вечар Валя вывучыла першае слова па-ангельску: job.

Працу Валя знайшла па аб'яве ў рускай газеце. Ленінградцы, матэматыкі, габрэі, прыстойныя, не сквапныя, добра зарабляюць. Дзіця малое, дашкольнае, недапешчанае, самотнае. Бацькі хочуць, каб па-руску размаўляла.

Далі Валі 700 даляраў на тыдзень на ўсім гатовым, асобны пакой у вялікай кватэры. Працоўны дзень у Валі пачынаецца, калі прачынаецца дзіця, заканчваецца — калі дзіця кладзецца спаць. Калі ўначы прачнулася і плача — да яго бяжыць Валя. Гэтыя не паварушацца. Спяць кожны ў сваёй спальні. Толькі для кахання збіраюцца разам. Нікога не саромеюцца. Крычаць. Асабліва гучна крычыць яна.

Валя хутка ўзяла кіраванне кватэрай у свае рукі. У абутку не хадзіць: я толькі што прыбрала, а вы зноў у абутку. У шафы на кухні не лазіць: хочаце есці — скажыце, я падам на стол. Аніякіх замоваў з рэстаранаў: як гэта можна есці, незразумела якімі рукамі прыгатаванае? Замову з піцэрыі дэманстратыўна шпурнула ў сметніцу.

Гатуе Валя круцей за прафесійнага кухара з італьянскага рэстарана. Адных толькі відаў дранікаў — восем.

Абмеркаванне дзённага меню з гаспадарамі па раніцах. Потым і гэтую пазіцыю матэматыкі здалі: хай робіць што хоча. Абавязковы суп: чалавек павінен есці вадкае — інакш язва страўніка і рак.

Праз месяц матэматыкі заўважылі, што прыкметна патаўсцелі. Пачалася паніка.

— Чым больш добрага чалавека — тым лепш. Вунь у цябе, — сказала яна гаспадыні, — срака як у хлопчыка.

Гаспадару перад выхадам на працу ладзіць асабісты дагляд. Чаму ў цябе шкарпэткі розныя? Я ж усё па парах склала. Вопратку трэба прасаваць. Як гэта можна інтэлігентным людзям хадзіць мятымі? Ідзі сюды, гальштук папраўлю. Зноў гэты завязаў. А дзе той, што я табе на мінулым тыдні купіла? Не падабаецца?

З колеравызначэннем у Валі праблема. Імкнецца да спалучэння чырвонага з зялёным.

*Працяг будзе.*

### Ад перакладчыкаў

*Уладзімір Рабіновіч — чалавек, якога ў часы Брэжнева ведаў увесь несавецкі Мінск. Ён быў асноўнай крыніцай самвыдату ў нашай краіне, што было прычынай пастаянныхператрусаў у яго ным доме ў мінскім Сельгаспасёлку. За распаўсюд замежнай музыкі атрымаў 2,5 года зняволення.*

*Пра сябе піша: «Нарадзіўся ў ліпені 1950 года. Да 1987 года прайшоў усе асноўныя пункты савецкага жыцця: дзіцячы сад, школа, праца, турма, эміграцыя. Жыву ў ЗША на востраве. Апавяданні пачаў пісаць зусім нечакана восенню 2013 года. Габрэй».*

*Такім чынам, прадстаўнік мінскай багемы, якая так хутка знікла, распалася і раз'ехалася, цяпер пакрысе ў форме невялікіх навел вяртаецца да нас.*

*Стась Карпаў, Валеры Руселік, Эла Дынглі*

## Савецкі час вачыма Пазняка

Зянонавы «Гісторыі з савецкага часу», апублікаваныя ў свежым нумары часопіса «Дзеяслоў», складаюцца з трох аповедаў-згадак. Першы, «Дукшта», расказвае гісторыю млынара Казюка Дукшты, чый прыёмны сын Янка нечакана робіць партыйную кар'еру. Вобраз апошняга намаляваны адмоўна. Тут і няўдачы ў стасунках з дзяўчатамі, і расейшчына, і шаблоннасць у мысленні. Пазняк стварае паэтычны вобраз райскага жыцця ў беларускай глыбінцы з няспешным рытмам і простымі радасцямі. Толькі камуніст, які адрокся ад роднай мовы і не разумее мясцовых звычаяў, з'яўляецца перашкодай для гэтага ідэальнага жыцця.

Другі аповед, «Гарнізон», больш просталінейны і катэгарычны. Гэта карыкатурныя побытавыя гісторыі з жыцця вайскоўцаў, якія п'юць, слухаюцца жонак і больш клапоцяцца пра жывёл, чым пра людзей. Усе вайскоўцы паходзяць з Расіі і паводзяць сябе ў Беларусі як чужынцы.

Самы моцны аповед — «Геранім» — пераносіць чытачоў у Абхазію. У цэнтры гісторыі рэстаўратар царквы, які выжыў падчас авіякатастрофы. Хоць Пазняк знаёміць нас з чужой гісторыяй, у «Гераніме» можна знайсці ключ да разумення логікі яго паводзінаў. «Яшчэ седзячы ў турме КГБ, я шмат думаў пра Боскі цуд, які здарыўся са мной, — кажа рэстаўратар. — Чаму Бог мяне ўратаваў і дазволіў жыць? Дзеля чаго? І я падумаў, што дзеля таго, каб сведчыць людзям, што Бог ёсць. (...).І я вырашыў стаць салдатам, рыцарам Бога, Ягоным слугой у гэтым свеце». Калі памяняць слова «Бог» на словазлучэнне «нацыянальная ідэя», мы цалкам зразумеем Пазнякову логіку.

І тых, хто будзе разглядаць «гісторыі» Зянона выключна з мастацкага пункту гледжання, і тых, хто будзе шукаць у іх «палітыкі», публікацыя пакіне задаволенымі.

**Максім Кавальскі**

## БАСКЕТБОЛ

### Дзве гульні «Цмокаў»




**13 сакавіка на «Мінск-Арэне»** беларускія баскетбалісты прымуць турэцкі «Газіянтэп». Матч пройдзе ў рамках чвэрцьфінала «Еўрачэленджа». Пачатак а 19. 16 сакавіка «Цмокі» гуляюць ужо ў рамках Адзінай лігі ВТБ. Яны прымаюць «Трыумф» з Люберцаў. Пачатак а 16. Падтрымайце «Цмокаў»

## ГАНДБОЛ

### Супраць «Партызана»

**18 сакавіка ў Брэсце ў спарткомплексе «Вікторыя» БГК імя Мяшкова** прыме сербскі «Партызан». Матч пройдзе ў рамках SEHA-лігі. Пачатак а 19-й.

## ІМПРЭЗЫ

### Прэмія «Дэбют»

**12 сакавіка а 19-й у галерэі «Ў» (Незалежнасці, 37А)** адбудзецца ўручэнне прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча. У цырымоніі бяруць удзел пісьменнікі і перакладчыкі, чые творы трапілі ў шорт-ліст прэміі. Музычнае віншаванне пераможцам — ад Лявона Вольскага і Паўла Аракеляна.

## КАНЦЭРТЫ

### «Сухішвілі»

**13 сакавіка ў КЗ «Мінск» (Кастрычніцкая, 5)** — выступ Нацыянальнага балета Грузіі «Сухішвілі». Пачатак а 19-й.

### The UNB

**14 сакавіка а 19-й у паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — выступ гурту The UNB.

### Аляксей Шадзько

**17 сакавіка ў КЗ «Мінск» (Кастрычніцкая, 5)** дасць канцэрт Аляксей Шадзько. Пачатак а 19-й.

## ВЫСТАВЫ

### Літоўская фатаграфія праз пакаленні

**У Галерэі Савіцкага (пл. Свабоды, 15)** працуе выстава, прымеркаваная да 80-годдзя літоўскага Саюза фотамастакоў. На ёй можна пабачыць працы трох пакаленняў літоўскіх фатографаў: даваенную фатаграфію, класіку 50—80-х, прызнаных майстроў сучаснасці. Менавіта літоўскія фотамастакі змянілі савецкае фатаграфічнае мысленне: ад адзінкавых здымкаў з выпадковым сюжэтным элементам кадра яны перайшлі да шматпланавых кампазіцый і тэматычных цыклаў.



### Штучнае асвятленне. Клара і Роза

**Праект «Штучнае асвятленне. Клара і Роза»** — гэта творчы зварот да тэмы гендэрнай міфалогіі. Праект апелюе да двух аспектаў: першы — штучнае асвятленне — зварот да «медыясвятла», у якім і ствараюцца гендэрныя міфы; другі — асобы Клары Цэткін і Розы Люксембург. У рамках выставы таксама экспануецца фотапраект Мікалая Бацвінніка «Rosenhaus», які дэманструе яго ўласны погляд на жанчын-мастачак. Выстава працуе ў Музеі сучаснага мастацтва (Незалежнасці, 47).

## ТЭАТРЫ

### 13 сакавіка

**Оперы і балета** — Іаланта
**Юнага гледача** — Ліса і вінаград

### 14 сакавіка

**Лялек** — Вянчанне
**Оперы і балета** — Вітаўт
**Юнага гледача** — Крыху пяшчоты

### 15 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Лялек** — Мыйдадзір
**Оперы і балета** — Царэўна-жабка

### 16 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Лялек** — Марозка
**Оперы і балета** — Лебядзінае возера
**Юнага гледача** — Пані Завіруха

### 18 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Дажыць да прэм'еры
**Оперы і балета** — Аіда
**Юнага гледача** — Мой бедны Марат




### «Дон Жуан»

22, 23, 25 сакавіка ў Купалаўскім тэатры прэм'ера «Дона Жуана». Андрэй Хадановіч пераклаў камедыю Жана-Батыста Мальера з французскай мовы на беларускую. Для пастаноўкі спектакля з Санкт-Пецярбурга запрошаны рэжысёр Анатоль Праўдзін. На прэм'еру білетаў ужо не ўзяць, але ёсць магчымасць набыць квіткі на 8, 9, 30 красавіка.

### 19 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Оперы і балета** — Баядэрка
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

## КІНО

### Голас з камп'ютара

Яна
Камедыя, драма, меладрама
Рэжысёр: Спайк Джонз
У ролях: Хаакін Фенікс, Скарлет Ёхансан, Эмі Адамс, Крыс Прат, Руні Мара, Алівія Уайлд
ЗША, 126 хв.

Недалёкая будучыня. Адзінокі пісьменнік Тэадор, які спецыялізуецца на напісанні асабістых лістоў для сем'яў, набывае новую аперацыйную сістэму. Гэта распрацоўка выконвае не толькі звычайныя функцыі АС, але і валодае штучным інтэлектам і імітуе асобу, якая вучыцца стасавацца і развіваецца разам са сваім карыстальнікам. З цягам часу ў Тэадора з Самантай — так называе сябе АС — пачынаюцца сапраўдныя рамантычная адносіны...

Фільм, сцэнарыстам і рэжысёрам якога выступіў Джонз, атрымаў «Оскар» за найлепшы арыгінальны сцэнар. Футуралагічны сюжэт апісвае стасункі паміж чалавекам і інтэлектуальнай машынай, якая ўсведамляе сваё існаванне і валодае нашмат большымі магчымасцямі для апрацоўкі інфармацыі, але не мае цела. Голас Скарлет Ёхансан надзяляе Саманту сапраўднымі пачуццямі, за гэтую ролю актрыса атрымала прыз Рымскага кінафестывалю. Надзвычай пранікнёны і добры фільм пра будучыню, якую няўхільна набліжае тэхнічны прагрэс.

**Настасся Уласава**



# «Фітнэс-шмітнэс», ці Худзеем па-беларуску

На «Белсаце» стартуе новае **забаўляльнае шоу.**

Што можа азмрочыць надыход вясны, дык гэта вага, набраная за зіму. З гэтай нагоды на «Белсаце» стартавала «першае беларускае аздараўляльна-забаўляльнае шоу з элементамі буфанады, інтэрактыву і лёгкай эротыкі» з паэткаю Валярынаю Куставай і музыкам Паўлам Аракелянам. А таксама з прафесійнымі трэнерамі, лекарамі і пластычнымі хірургамі.

«Наша Ніва» пагутарыла з галоўнымі героямі праграмы пра новы для Беларусі фармат. Мы даведаліся, што гэта будзе амаль рэаліці-шоу, падчас якога Валярына будзе імкнуцца скінуць ледзь не 50 кг!




**Наша Ніва: Валярына, ці не страшны такі эксгібіцыянізм і чаму ты на яго пагадзілася? 50 кілаграмаў — гэта вельмі шмат!**

**Валярына Кустава:** У праграме я выдаю ўсе свае параметры: узрост, вагу, аб'ёмы. Я думаю, такая публічнасць матывуе. Заходжу нядаўна ў кавярню на працы, а ўсе калегі хорам: «Ты што, бярэш мяса? Табе хіба можна мяса?!» Мне можна! Цяпер, калі нас будуць бачыць гледачы, то нават шакаладку на вуліцы не з'ясі — запеленгуюць. Зрэшты, шакаладку мне таксама можна! Я пераканаеная — я вытрымаю. І ўжо напрыканцы года вы мяне не пазнаеце. У найлепшым сэнсе.

**НН: Павел, як ставішся да ўчынку Валярыны здзейсніць такі эксперымент?**

**Павел Аракелян:** З павагай. Але публічнаму чалавеку не трэба баяцца ўвагі, таму больш за ўсе я паважаю яе працаздольнасць і мэтанакіраванасць.

**НН: Напісана, што гэта будзе шоу з элементамі эротыкі. Інтрыгуе, канечне, але чаго сапраўды чакаць?**

**Валярына:** Абяцаем, што яна будзе. Бо ў нашай творчай брыгадзе, апроч мяне, пяцёра хлопцаў. Таму я ледзь стрымліваю іх фантазіі.

**НН: Як паўстала ідэя такога шоу?**

**Валярына:** Мы сустракаліся з Пашам на супольных выступах, і я бачыла, як ён файна выглядае. І аднойчы папросту спыталася, ці не мог бы ён параіць мне трэнера. І Паша прапанаваў сам заняцца мной. Заняткі праходзілі так весела і цікава, што мы вырашылі падзяліцца сваім досведам і з іншымі. Тым больш вынікі пачалі з'яўляцца адразу.

**НН: Чым вашае шоу будзе адрозніваецца ад тыповых фітнэс-праграм?**

**Павел:** Па-першае, гэта шоу, пабудаванае на гумары і рогаце, глядзець яго будзе не толькі карысна, але і весела. Па-другое, мы робім яго як для сябе, выкладаючыся на 100% і болей.

**Валярына:** Гэта будзе правільны эмацыйны пасыл на здароўе. Не проста гадзіна заняткаў з серыі «паўтарай за намі», а стылізацыя свядомасці. Пасыл у тым, што, жывучы ў Беларусі, трэба быць здаровым і энергічным, каб дасягнуць задуманага.

Таксама гледачоў чакаюць новыя рубрыкі і госці — беларускія знаныя спартоўцы і лекары, а таксама мы будзем праводзіць конкурсы і кансультацыі.

**НН: Можа, будуць яшчэ якія-небудзь фішкі?**

**Валярына:** Нарэшце з'явіцца праграма, у якой будуць элементы ўсяго таго, чаго так бракавала на беларускім тэлебачанні. Гэта і інтэрактыў з гледачамі праз сацыяльныя сеткі, і гумар, і інтым, і здаровы лад жыцця. Усё, чаго так не стае ў хворай і дэпрэсіўнай беларускай рэчаіснасці.

**НН: Ці сапраўды можна будзе схуднець, гледзячы шоу і падпарадкоўваючыся таму, што там будуць распавядаць?**

**Валярына:** Так, калі прытрымлівацца парадаў па харчаванні і занятках, якія мы даём цягам праграмы. Але не проста схуднець, а стаць здаровым, моцным і прыўкрасным. Каб выжыць і жыць у Беларусі.

**Вольга Гарапучык**

Шоу стартавала 8 сакавіка. Худзець, гледзячы забаўляльнае шоу, можна на сайце «Белсата» кожную суботу а 18.30.

# У Мінску адчыняецца новая беларуская кнігарня

Выдавецтва «Галіяфы» стварае ўласную культурніцкую пляцоўку ў невялікім памяшканні каля станцыі метро «Маскоўская», у будынку электрамеханічнага завода па адрасе Валгаградская, 6.

Каманда «Галіяфаў» рыхтуецца да адкрыцця — 14 сакавіка тут будуць прэзентаваны новыя кнігі Адама Глобуса «Партрэты» і Юрыя Станкевіча «Брамнік заўжды самотны». Мэблю змантаваць пакуль не паспелі — на падлозе стосамі ляжаць кнігі, а ля сцен стаяць карціны.

Уверсе, над паліцамі, будзе невялікая галерэя, расказвае заснавальнік «Галіяфаў» Зміцер Вішнёў. Там можна будзе набыць карціны беларускіх мастакоў.

«Наша мэта — прасоўваць беларускую культуру і, натуральна, кнігі, якія выходзяць у нашым выдавецтве, — тлумачыць Вішнёў. — На кнігі «Галіяфаў» будзе найлепшая цана ў горадзе».

Таксама ў кнігарні, расказаў Вішнёў, будуць праходзіць культурніцкія мерапрыемствы: лекцыі, міні-канцэрты, прэзентацыі.

**Юрась Ускоў**


Зміцер Вішнёў у будучай кнігарні.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Жыхары каралеўскага горада

**Выйшла кніга** «Гародня X—XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам».

З усіх беларускіх гарадоў гісторыя Гродна даследавана ці не найбольш. Услед за шыкоўна аздобленым «Гродназнаўствам», якое ахоплівала гісторыю горада ад старажытнасці да пачатку 1990-х гадоў, выйшла яшчэ адна грунтоўная кніга. На першы погляд, «Гародня X—XX стст.» — пашыраная версія папярэдняга даследавання. Але адрозненняў багата.

Першае — аўтары. Абедзве кнігі напісаныя гарадзенскімі гісторыкамі. Але ў другім калектыве таксама прадстаўлены даследчыкі з іншых гарадоў: Мінска, Беластока і Кракава, дзе працуе гарадзенец Юрый Гардзееў. Праўда, агульны аўтар у дзвюх кніг толькі адзін — Вячаслаў Швед. Памятаючы скандалы з «Гродназнаўствам», рэдактар новай кнігі Аляксандр Смалянчук імкнуўся не прыцягваць да працы навукоўцаў з Гродзенскага ўніверсітэта.

Другое — памер і афармленне. 340 старонак «Гродназнаўства» кантрастуе з 513 старонкамі «Гародня X—XX стст.». Да таго ж, вялікую частку першай кнігі займаюць ілюстрацыі (карціны, карты). У другой іх няма, толькі тэкст.

Трэцяе — аўдыторыя. У «Гродназнаўстве» гісторыя горада выкладзена ў папулярнай форме, разлічанай на шырокую аўдыторыю. «Гародня X—XX стст.» арыентаваная на больш падрыхтаванага чытача. Але стыль выкладання просты, не перагружаны вузкай навуковай тэрміналогіяй.

Чацвёртае — выбраны ракурс. «Гродназнаўства» можна ўспрымаць як варыянт альтэрнатыўнага падручніка па гісторыі, дзе традыцыйна ўвага надавалася палітычнай, эканамічнай і культурнай гісторыі. Таму яго аўтары імкнуліся ахапіць усе аспекты жыцця горада, прадставіць іх сістэматычна і паслядоўна. «Гародня X — XX ст.» напісана навукоўцамі, якія самі выбіралі аспекты, на якіх жадалі спыніць увагу. Таму ў кнізе прадстаўлены як агульнадзяржаўныя падзеі, так і прыватныя гісторыі асобных людзей. Напрыклад, у падраздзелах, прысвечаных пасляваеннай Гародні, ідзе гаворка пра біяграфіі Быкава, Карпюка, а таксама лекара Мікалая Марцінчыка або выкладчыка Браніслава Ржэўскага. Яшчэ адзін прыклад — сітуацыя, калі аўтары расказваюць пра Гародню часоў Рэчы Паспалітай. Яны расказваюць пра рэформы Антонія Тызенгаўза, гарадзенскі сейм, які моўчкі ўхваліў другі падзел Рэчы Паспалітай. А яшчэ пра правядзенне кірмашоў або штодзённае жыццё гарадзенскага кагала. Вайна 1812 года асвятляецца не праз бітвы, а праз паводзіны мясцовых жыхароў або рэквізіцыі новай улады.


ГАРОДНЯ
X–XX стст.
Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам

Калі ў цэнтры ўвагі аўтараў «Гродназнаўства» знаходзіцца Гродна, дык калектыў другой кнігі імкнецца расказаць пра жыхароў горада, а таксама ўбачыць гісторыю горада іх вачыма.

**Максім Кавальскі**

## Сцісла

### Памёр чырвонаармеец Сухаў

Гэтую ролю ў культавым «Белым сонцы пустыні» выканаў расійскі акцёр Анатоль Кузняцоў. Ён памёр 7 сакавіка ў Маскве. Яму было 83 гады. Усяго Кузняцоў зняўся амаль у 100 фільмах.

### Сокалаў-Воюш напісаў песню «Крым»

«Расея, уварваўшыся ў Крым, перакройвае чужыя межы, што ставіць пад пытанне межы самой Расеі», — кажа музыка. «Па-першае, украінцы — нашы браты, і любая агрэсія супраць іх — гэта агрэсія і супраць нас. Па-другое, Крымскае ханства стварыў Вітаўт, і таму мы маем сваю частку адказнасці за гэтую зямлю і свой да яе сантымент. Па-трэцяе, тое, што робіць там Расея, пярэчыць прынцыпам цывілізаванага свету XXI стагоддзя».

**МК**




У знак пратэсту супраць агрэсіі Расіі на адкрыццё Паралімпіяды выйшаў толькі сцяганосец Украіны Міхаіл Ткачэнка. Стадыён у Сочы сустрэў яго авацыяй.



Артадаксальныя габрэі Ізраіля пратэстуюць супраць законапраекта, які адмяняе для іх вызваленне ад службы ў войску.



У Крыме заблакаваныя ўкраінскія вайсковыя маракі павіншавалі жанчын са святам 8 Сакавіка.




Аляксандр Саладуха стаў другім беларускім спеваком, які сабраў «Мінск-Арэну». 8 сакавіка там прайшоў яго канцэрт «Вернае сэрца». Праўда, прадалося не 12 тысяч, а 5700 квіткоў.

## Анекдоты і жарты

* * *

— Бандэраўцаў бачыш?
— Не...
— А яны там ёсць!
— Расійскіх салдат бачыш?
— Так...
— А іх там няма.

* * *

— Ты фашыст і бандэравец!
— Так, я ведаю, у нас уся сінагога такая.

* * *

Калі вы раптам выявілі, што вакол адны бандэраўцы і садаміты, — не хвалюйцеся! Не робячы рэзкіх рухаў, асцярожна выключыце ваш тэлевізар!

* * *

Дзмітрыя Мядзведзева на час вайны адвезлі да бабулі.

* * *

Януковіч: Я ўсё яшчэ прэзідэнт!

Журналіст газеты «Крестьянин»: Але вам абʼяўлены імпічмент...

Януковіч: Я постмадэрніст, я так бачу. Эпоха метанаратываў прайшла, больш не існуе манаполіі на праўду, надышла эпоха плюральнасці, грамадства палілогу. Мы выслізгваем з татальнасці. Ніякі дыскурс не мае прывілеяў перад іншым дыскурсам, усе роўныя, і маё бачанне нічым не саступае вашаму ці нейкаму там імпічменту, кім бы гэты чалавек ні быў.

* * *

Бацькі, якім не хапае грошай на відэакамеру, імкнуцца як мага лепш запомніць выпускны сына або дачкі.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Сосенка. Вілейскі павет.** Пʼюць паганую атруту чуць не пагалоўна мужчыны і бабы; крадуць сусед у суседа, мужык у жонкі свае пажыткі і прапіваюць. Як толькі прыходзіць якое свята, так і цягнуцца гуськом да шынкара, а адтуль ужо вяртаюцца вясёлыя, пяюць пʼянымі галасамі брудныя песні і гэта робяць нават бацькі і маткі дзяцей.

**«НН». №11-12. 1914.**

**Сасім назусім.** Такога Баранавічы не бачылі ад 1946 года, калі ў мясцовым педінстытуце распраўляліся з «Чайкай», якую энкавэдысты вынішчалі з асаблівай стараннасцю. Цяперашні выпадак не меў для юнакоў жахлівых наступстваў. Сябры БРСМ баранавіцкага каледжа лёгкай прамысловасці бальшынёй галасоў (68 «за», 6 «устрымаліся») вырашылі далучыцца да незарэгістраванага руху «Зубр».

**«НН». №10. 2004**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Курʼян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 11.03.2014.
Замова №1007.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 14010